На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

№8 (1821)
Аўторак, 20 студзеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -6...-4, уначы — -8...-6, на працягу сутак — снег; у Брэсце ўдзень — -2...0, снег, уначы — -6...-4, без ападкаў; у Гродне ўдзень — -2...0, снег, уначы — -7...-5, на працягу сутак — снег; у Віцебску ўдзень — -8...-6, уначы — -8...-6, на працягу сутак — снег; у Гомелі ўдзень — -6...-4, уначы — -2...0, на працягу сутак — снег; у Магілёве ўдзень — -8...-6, уначы — -6...-4, на працягу сутак — снег.

www.meteo.by



ПУЛЬС

## Сервіс ля «Варшаўскага моста»

На пагранпераходзе "Варшаўскі мост" адкрыта комплексная сервісная пляцоўка.

Яна ўяўляе сабою сучасны адміністрацыйны будынак, дзе арганізаваны цэлы комплекс паслуг: сувязь, пошта, магазін, кафэ, падраздзяленні страхавых фірм, пункт па аказанні першай медыцынскай дапамогі. Побач размешчана стаянка для легкавых аўтамабіляў і аўтобусаў на 100 месцаў і новая аўтазаправачная станцыя. Сервісная пляцоўка дае магчымасць ліквідаваць чэргі з дарогі на пад'ездзе да пункта пропуску "Варшаўскі мост".

## Пры атрыманні хабару

Пры атрыманні хабару ў суме 2.200 долараў ЗША затрыманы старшы інспектар пункту пропуску "Варшаўскі мост" мытні "Заходні Буг".

Гэтыя грошы праз пасрэднікаў перадаў мытніку непрацуючы жыхар Мінска. Прызначаўся хабар у якасці ўзнагароджвання за незаконнае афармленне пасведчання мытні аб увозе ў Беларусь 100.000 долараў. Пасведчанне канфіскавана. Супрацоўнік мытні, які знаходзіўся пры выкананні службовых абавязкаў, затрыманы, у дачыненні да яго пракуратурай Брэсцкай вобласці ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 430 КК Беларусі (атрыманне хабару).

Дзве крымінальныя справы па артыкуле 432 (пасрэдніцтва ў хабарніцтве) узбуджаны ў дачыненні да тых двух мужчын, якія па просьбе мінчаніна перадавалі грошы мытніку.

Аперацыя па затрыманні праведзена супрацоўнікамі ўпраўленняў па барацьбе з аргзлачыннасцю і карупцыяй МУС па г.Мінску і Брэсцкай вобласці.

Як паведаміў начальнік мытні "Заходні Буг" Вячаслаў Осінцаў, у 2003 годзе ў дачыненні да супрацоўнікаў мытні было ўзбуджана 6 крымінальных спраў. Летась з мытні звольнены 54 чалавекі, у тым ліку 14 — па скарачэнні штатаў, 16 — пасля заканчэння тэрміну кантракта, 5 — за грубыя парушэнні. Апрача таго, у дысцыплінарным парадку пакараны 41 супрацоўнік.

**БелаПАН.**

## Планы «МТС»

Сумеснае беларуска-расійскае таварыства з абмежаванай адказнасцю "Мабільныя ТэлеСістэмы" запусціла ў камерцыйную эксплуатацыю сетку стандарта GSM у Жлобіне і Светлагорску.

На сённяшні дзень сувязь МТС таксама працуе ў іншых вялікіх райцэнтрах Гомельшчыны: Мазыры, Рэчыцы і Калінкавічах, а таксама ў Нароўлі і пасёлку Ляскавічы.

Адначасова з забеспячэннем сувязі ў раённых цэнтрах у Гомельскай вобласці ідзе будаўніцтва сеткі на ўчастках транспартных калідораў Віцебск — Магілёў — Гомель — мяжа Украіны, Мінск — Гомель — мяжа Украіны. У планах кампаніі таксама — будаўніцтва сеткі на трасе Брэст — Пінск — Гомель, што з'яўляецца адной з асноўных транспартных магістраляў Беларусі.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Пачалася падрыхтоўка да фестывалю «Дажынкі-2004» і 1000-годдзя Ваўкавыска

Выканкам Гродзенскай вобласці зацвердзіў асноўныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы Ваўкавыска да рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў сяла "Дажынкі-2004" і 1000-годдзя горада.

Як паведамілі БелаПАН у аблвыканкаме, прадугледжваецца выканаць вялікі аб'ём работ па рамонце і паляпшэнні інфраструктуры аўтамабільных дарог, пад'ездаў да сельскагаспадарчых аб'ектаў, па добраўпарадкаванні населеных пунктаў і вуліц, рэканструкцыі гарадскога парку і грамадскага цэнтра горада, а таксама раённага Дома культуры і іншых грамадскіх будынкаў.

Запланавана пабудаваць у Ваўкавыску гмах новага аўтавакзала, капітальна адрамантаваць чыгуначны вакзал, комплексна "акультурыць" прылеглыя да іх тэрыторыі. Значныя аб'ёмы работ давядзецца выканаць на будаўніцтве і рэканструкцыі камунальных аб'ектаў, абуладкаванні археалагічнага помніка "Шведская гара", мемарыяльных і зялёных зон, спартыўных аб'ектаў.

**Віктар МАКАРЭВІЧ.**

## Ад землятрусу дапаможам Ірану

Беларусь акажа гуманітарную дапамогу жыхарам іранскага горада Бам, што пацярпеў ад землятрусу. Мяркуецца, што самалёт ІЛ-76 з гуманітарным грузам на борце вылеціць у Іран 26 студзеня. Ён даставіць пацярпелым цёплыя коўдры, палаткі і электрастанцыі. Агульная вага гуманітарнага грузу — 40 тон. Суправаджаць яго будуць прадстаўнікі МНС.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## У пад'ездзе знойдзена немаўля

Позна ўвечары 18 студзеня ў Жодзіне (Мінская вобласць) у пад'ездзе жылога дома была знойдзена загорнутая ў коўдру нованароджаная дзяўчынка.

Як паведамілі БелаПАН ва Упраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязей МУС, дзіця змешчана ў бальніцу. Асоба маці цяпер высвятляецца.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ТЕМА ДНЯ

# Чем закончились переговоры по газовой проблеме?

Агентство БелТА сообщило: "Достигнуты договоренности по вопросам поставки в нынешнем году в Беларусь из Российской Федерации топливно-энергетических ресурсов. Об этом заявил 16 января премьер-министр нашей страны Сергей Сидорский по прибытии в Минск из Москвы, где прошли его переговоры с главой российского правительства Михаилом Касьяновым. Эта встреча состоялась в рамках исполнения поручений по формированию топливно-энергетического баланса на 2004 год, которые даны председателем Высшего Государственного Совета союзного государства, президентом Беларуси Александром Лукашенко.

Объем поставок газа в текущем году из Российской Федерации в Беларусь согласован, сообщил Сергей Сидорский. В то же время пока не достигнута договоренность по цене. Как подчеркнул премьер-министр, Беларусь настаивает на поставках газа по цене пятого пояса Российской Федерации (как в Смоленской области. — прим. БелТА). Глава правительства отметил, что, по предложению белорусской стороны, до создания совместного предприятия этот вид топлива будет поступать в нашу страну по договору 2003 года. Им предусмотрено, что 75% объема газа по цене пятого пояса Российской Федерации поставляет "Газпром", остальную часть — независимые поставщики или же "Газпром" по договорным ценам. Дано поручение руководителям "Газпрома" и "Белтрансгаза" согласовать эти цены.

В ходе переговоров стороны пришли к пониманию того, что выдвинутые компанией "Газпром" условия по оценке ОАО "Белтрансгаз", исходя из его балансовой стоимости не имеют под собой оснований, заявил премьер. Дано поручение правительству Российской Федерации о проведении этой оценки на основании рыночной стоимости белорусского газотранспортного предприятия. В ближайшее время будет определена компания, которая проведет независимую экспертизу...

Окончательное решение по блоку вопросов, связанных с формированием топливно-энергетического баланса, планируется принять 10 февраля на заседании союзного правительства".

Российская газета "Время новостей" дает иную оценку: "Очередной раунд переговоров по поставкам российского газа в Беларусь оказался бесплодным для Минска. Делегированный в Москву на переговоры с Михаилом Касьяновым белорусский премьер Сергей Сидорский провел несколько часов в Белом доме. Однако надежды белорусской стороны на то, что после встречи премьеров российское правительство порекомендует "Газпрому" отступить от принципиальной позиции по созданию СП на базе "Белтрансгаза" и начать поставки газа по внутрироссийской цене 29 долларов за 1 тысяч кубометров, не оправдались. По итогам беседы г-н Касьянов сообщил журналистам: "Пока никаких договоренностей по этому вопросу нет". Более того, глава Кабинета заявил, что не собирается вмешиваться в коммерческие переговоры двух хозяйствующих субъектов — "Газпрома" и "Белтрансгаза".

Далее эта газета пишет: "Непонятно, почему в Минске всерьез рассчитывали на помощь г-на Касьянова. Ведь Александру Лукашенко и его подчиненным хорошо известно, что рыночная модель взаимоотношений с соседом в газовой сфере санкционирована в Кремле.

"Газпром" прекратил поставки газа в Беларусь с 1 января этого года. Команда Алексея Миллера таким образом намерена заставить подчиненных Александра Лукашенко как минимум приступить к созданию СП на приемлемых для российского концерна условиях... В итоге "Газпром" с санкции политического руководства страны жестко увязал свое участие в "Белтрансгазе" с поставками газа в республику по российским ценам. Если же Минск не будет готов к созданию СП на приемлемых для концерна условиях, то ему будет предложено покупать газ по рыночной цене, а точнее — согласно украинской модели — по 50 долларов за тысячу кубометров (вместо базовых 80 долл.) в обмен на льготы в оплате транзита. Однако в белорусском бюджете нет денег на оплату газпромовского газа по рыночным ставкам — цена вопроса около 200 дополнительных миллионов долларов в год. Поэтому белорусские чиновники ищут любые способы воздействия на ситуацию, при этом, по сути, ничего не предлагая взамен".

О бесплодности переговоров в Москве утверждает и газета "Известия". Она, в частности, пишет: "Как таковых итогов встречи нет", — говорят в российском правительстве. — Переход не единую валюту премьеры не обсуждали, а вопросы создания газотранспортного предприятия и поставок газа передали на уровень хозяйствующих субъектов, констатировав, что переговоры идут "сложно". Беларусь, лишившись дешевого российского газа, может оказаться на грани топливного и бюджетного кризиса. Но в отношениях Москвы и Минска политика всегда превалировала над экономикой".

Газета также подчеркивает, что ходом переговоров Беларуси с "Газпромом" четко дирижирует Кремль: "Обсудив с президентом "некоторые аспекты российско-белорусских отношений", Касьянов пригласил белорусского премьера в Москву.

"Некоторые аспекты" в поведении союзника давно и сильно беспокоят российские власти. В первую очередь — непонятная и изменчивая позиция руководства Беларуси по поводу будущего Союзного государства и перехода на единую валюту. По условиям межгосударственных соглашений Беларусь должна перейти на российский рубль с 1 января 2005 года. Летом прошлого года Александр Лукашенко стал публично сомневаться в целесообразности такого шага и потребовал первоочередного принятия общей конституции".

Газета "Известия" намекает также на судьбу Лукашенко, в зависимости от итогов переговоров. Она отмечает: "В кремлевских кругах говорят о двух вариантах действий: ставить на Лукашенко и помогать ему переизбраться в 2006 году либо "выращивать" замену. Главное, чтобы смена власти в Беларуси не пошла по грузинскому сценарию. Однако у Москвы есть сильный рычаг воздействия на неуступчивого союзника — поставки газа".

Между тем топ-менеджеры "Газпрома" по-прежнему настроены жестко и решительно.

"Мы продолжаем настаивать на ранее выдвинутых условиях", — сказал "Финансовым Известиям" пресс-секретарь главы "Газпрома" Алексея Миллера Сергей Куприянов. Последние условия, которые после обсуждения с правительством обнародовало руководство "Газпрома", были следующие: российский газовый концерн готов подписать договор о поставках 10 млрд. кубометров газа по цене пятого пояса (28 долларов за тысячу кубометров) только после подписания соглашения о совместном предприятии.

Стало быть, Россия решительно настроена на то, чтобы завладеть белорусским предприятием, приносящим неплохую прибыль.

**Подготовил к печати**
**Евгений ТАВГЕНЬ.**

## Руплівуцаў роднага слова — на вуліцу?

**Зварот Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

Грамадзяне Беларусі!

Над ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны", якое бароніць лінгвістычныя правы чалавека, выступае за наданне беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай, упоравень з афіцыйнымі структурамі стаіць на варце нацыянальнай бяспекі краіны, — навісла рэальная пагроза ліквідацыі.

Выканаўчая ўлада Партызанскага раёна адмовіла нам у арэндзе памяшкання на 2004 год і не прапанавала ўзамен нічога іншага. Згодна з іх рашэннем, Таварыства павінна вызваліць памяшканне па вул. Румянцава, 13 да 04.03.04 г. У выпадку высялення грамадскае аб'яднанне губляе юрыдычны адрас трох сваіх арганізацый: Рэспубліканскай, Мінскай гарадской і Партызанскай раённай, што можа стаць падставай для закрыцця Таварыства беларускай мовы.

Звяртаемся да ўсіх, каму не абыякавы лёс беларускай мовы, выказаць уладным структурам, у першую чаргу старшыні Мінскага гарвыканкама Міхаілу Паўлаву, сваё стаўленне да беспадстаўнага высялення адной з важных для незалежнай беларускай дзяржавы грамадскіх арганізацый краіны.

**Прынята**
**на сакратарыяце ГА ТБМ 13.01.04 г.**

ДОЖИЛИСЬ!

## В Хойниках нет сахара...

Уважаемая редакция!

Случайно не брался президент и его назначенцы за обеспечение населения сахаром? Три недели не могу найти сахара. С рынка исчез, а в госторговле не появился!

Третье тысячелетие, а в Республике Беларусь такие проблемы! Согласен, что во всем виноват народ — одни выбрали таких руководителей, другие не запасаются мешками с пропадающими продуктами. А может, опять подлые американцы виноваты?

**О.В.КОЗЛОВ, житель г.Хойники.**

**ОТ РЕДАКЦИИ**

**Вот такое саркастическое письмо получили мы по электронной почте из Хойник, что в Гомельской области. Тут же связались с местным райпотребсоюзом. Товароведы подтвердили: да, с сахаром перебои. И это сейчас, когда сезон заготовки варений, соков, джемов и прочих сладостей давным-давно позади.**

**Причина, видимо, не в том, что сахара нет вообще, а, скорее всего, в том, что плохое экономическое положение торговых организаций. Сегодня в Хойниках проблема с сахаром, завтра, возможно, с трудом можно будет купить масло, а затем, глядишь, и за хлебом образуются очереди.**

**А послушаешь высоких начальников — у нас жизнь-малина.**

ЭКСПЕРТИЗА

# Впереди — перестройка и гласность?

*7 января в колоритном антураже Свято-Духова собора (Рождество!) Александр Лукашенко неожиданно объявил 2004-й годом ускорения и качества. Потому что, объяснил он пастве, "без высокой скорости, без ускорения мы не сможем преодолеть те вершины, которые наметили и которые лягут в основу благосостояния нашего народа".*

*При слове "ускорение" многие, кто постарше, наверняка сразу вспомнили Михаила Горбачева. Тот в 1985-м начинал именно с этого лозунга. Финал для инициатора был, как известно, драматичен.*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

Горбачев, избранный генеральным секретарем ЦК КПСС, то есть фактическим правителем огромной стагнирующей страны, быстро понял, что, нахлестывая застойную экономику, далеко не уедешь. Он осторожно заговорил о перестройке, о демократизации и гласности. И невольно разбудил процессы, которые в итоге разрушили советскую сверхдержаву.

Уместна ли параллель между горбачевскими лозунгами и своего рода программным экспромтом официального белорусского лидера в светлый праздник Рождества Христова? Не приведет ли и Александра Лукашенко логика провозглашенного ускорения к необходимости инициировать те процессы, за отсутствие которых первого белорусского президента все годы его правления критикует оппозиция и заграница? То есть к реформам демократического толка?

Политолог **Владимир Ровдо** в интервью *"Белорусским новостям"* высказал мнение, что в случае Лукашенко эволюция по Горбачеву невозможна. Да, отметил собеседник, в свое время белорусский лидер не без гордости подчеркивал, что его, тогда еще директора совхоза, заметил и оценил сам генсек Горбачев. Кажется, того впечатлило выступление молодого директора из БССР на каком-то всесоюзном совещании по арендному подряду на селе... **"Я был первым человеком в Советском Союзе, при Горбачеве, создавшим девять фермерских хозяйств, еще работая в госхозе. И я видел эти процессы. И если бы не мое отношение к этим фермерам, они бы погибли. Я их просто на плечах нес"**, — образно рассказывал как-то Александр Лукашенко журналистам, подчеркивая, что он отнюдь не чужд рыночного мышления и прогрессивных веяний.

И вместе с тем белорусский руководитель не единожды публично позиционировался по отношению к Горбачеву, когда речь заходила о распаде Советского Союза. Мол, я в Беларуси такого хаоса никогда не допущу. Тут, пожалуй, уместна еще одна пространня цитата. **"Вспомните Горбачева. У меня к нему отношение хорошее. Не было бы Горбачева — меня бы никогда не было как президента, как успешного когда-то предпринимателя на государственном предприятии. Никогда. Это что касается меня лично. А сколько таких! Какую все-таки в то время отдушину Горбачев дал для многих!** — неожиданно заявил Лукашенко на пресс-конференции для российских СМИ 1 августа прошлого года. Однако далее последовало "но", жестко отрезавшее весь этот демократический пафос от дальнейших выводов. — **Но народ это все забыл. Он его в чем упрекает? В развале государства, в потакании Западу и так далее. Что, народ не прав? Прав... Как поступил Горбачев? Как в цивилизованном государстве. Не хотите — я ухожу! Народ сегодня осуждает за то, что развалил страну и бросил ее. Я не хочу, это главное, чтобы народ мне сказал потом, если вдруг ухудшится ситуация: так ты же мог ее удержать. Худо-бедно, но при Лукашенко эта ситуация как-то держится...".**

Здесь так и просится формула известного белорусского политолога **Валерия Карбалевича:** пока риски от трансформации созданной Лукашенко системы больше, чем риски от ее консервации, будет господствовать консервация.

У Владимира Ровдо — подобный прогноз. Он предполагает, что новоиспеченный лозунг ускорения и качества будет воплощаться в жизнь при помощи старой административно-командной методики. Политолог признает, что ресурсы административной системы оказались более серьезными, чем предполагали иные оппоненты Лукашенко из лагеря либеральных рыночников. И все же эти ресурсы иссякают. Да, напряжением всех звеньев созданной государственной системы можно добиться желанных для высшего руководства 9—10 процентов роста ВВП. **"Но, во-первых, это какой-то странный рост, при котором масса людей, и не только пенсионеров, но и работающих, отнюдь не становится богаче,** — замечает политолог. — **Во-вторых, дирижизм в экономике может давать эффект только на индустриальной стадии развития. И в этом смысле Лукашенко получил хорошее, передовое по советским меркам промышленное наследство. Но с реалиями постиндустриального, информационного общества подобные подходы абсолютно не стыкуются. Такое общество требует совершенно иной степени открытости — во всех смыслах".**

В белорусской же ситуации, по мнению Владимира Ровдо, скорее можно ожидать решений в духе Андропова, а не Горбачева.

А может, аура храма божьего сделает свое дело — и случится чудо? Вот проснемся завтра — а на улицах растяжки: **"Демократизация и гласность — веление времени!"**. То-то челюсть отвиснет у старушки Европы.

Только скептики почему-то дружно говорят: не отвиснет. И уверяют, что нашей власти, да еще при таком непритязательном народе, куда удобнее сакраментальный лозунг — **"Худо-бедно, но при Лукашенко эта ситуация как-то держится..."**.

*("Белорусские новости.")*

СКАНДАЛ

# У Мінску знаходзіўся цэнтр міжнароднай злачыннай групоўкі, якая праз Інтэрнет гандлявала дзіцячай парнаграфіяй

***Спецслужбы ЗША з дапамогай беларускай міліцыі, а таксама паліцыі Францыі і Іспаніі раскрылі гэтую групоўку і ўжо арыштавалі некалькі дзясяткаў злачынцаў. Між тым, паводле незалежных крыніц, у Мінску дзейнічае як мінімум яшчэ адна сетка злачыннага гандлю дзіцячай парнаграфіяй і яе, магчыма, апякуе нейкі высокапастаўлены дзяржаўны чыноўнік.***

Расійскія ды іншыя замежныя агенцтвы ўжо некалькі дзён паведамляюць пра выкрыццё міжнароднай групоўкі, якая праз Інтэрнет гандлявала дзіцячай парнаграфіяй. Паводле гэтых паведамленняў, база групоўкі знаходзілася ў Мінску. Тут быў адкрыты інтэрнет-сайт, праз які прадаваўся выхад на сайты з дзіцячымі парнаграфічнымі фотаздымкамі. Спецслужбы ЗША з дапамогай паліцыі Францыі, Іспаніі і дзякуючы намаганням беларускіх міліцыянтаў раскрылі гэтую злачынную групоўку і ўжо арыштавалі некалькі дзясяткаў чалавек, датычных да яе дзейнасці.

У Еўропе арыштаваны тры кіраўнікі беларускай фірмы ***"Рэгпэй"***, якая нібыта займалася адмываннем зробленых на злачынным бізнесе грошай. Генеральны пракурор і міністр юстыцыі ЗША **Джон Эшкрафт** паведаміў, што беларуская фірма "Рэгпэй" атрымала ад аматараў дзіцячай парнаграфіі 3 мільёны долараў.

У Міністэрстве ўнутраных спраў Беларусі не паведамляюць прозвішчаў затрыманых беларусаў і старанна хаваюць падрабязнасці гэтай справы, аднак з задавальненнем падкрэсліваюць свой унёсак у агульную справу.

*"Група супрацоўнікаў МУС РБ з мэтай узаемадзеяння выязджала ў ЗША. Таксама ў Беларусь прыязджалі прадстаўнікі праваахоўных органаў ЗША. Вынікам супрацоўніцтва стала затрыманне распаўсюджвальнікаў дзіцячай парнаграфіі"*, — інфармуе адмысловае паведамленне прэсавай службы Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі.

Дарэчы, на расследаванні злачынстваў, зробленых праз Інтэрнет у МУС Беларусі спецыялізуецца асобнае ўпраўленне. Раскрыццё злачыннай групоўкі з каранямі ў Мінску, верагодна, самы вялікі поспех гэтага ўпраўлення, якому сёння зайздросцяць нават адмыслоўцы з КДБ. Між тым ёсць сведчанні таго, што раскрытая групоўка дзіцячага парнабізнесу — не адзіная ў Мінску і нават магчыма, што іншым дзялкам у гэтай справе дапамагаюць нядобрасумленныя беларускія чыноўнікі ды міліцыянты.

Пра гэта Радыё "Свабода" заявіў мінскі журналіст, які ўжо некалькі месяцаў вядзе прыватнае расследаванне гэтай справы. Ён прасіў не раскрываць ягонага імя і нават змяніць голас, а пасля паведаміў, што прыкладна тры месяцы таму ў рэдакцыю газеты, у якой ён працуе, звярнуўся нейкі міліцыянт з прапановай выслухаць чалавека, які нібыта шмат ведае пра дзялкоў дзіцячага парнабізнесу ў Мінску. Журналіст пайшоў на кантакт з гэтым чалавекам і вось пра што неўзабаве даведаўся.

***"У Мінску было дзве студыі, дзе праводзіўся адбор кандыдатаў і рабіліся фотаздымкі, якія потым траплялі ў Інтэрнет,*** — гаворыць ён. — ***Іх праглядаў кур'ер, які даваў згоду на здымкі. Плацілі пасрэдніку, які прыводзіў мадэляў. А гэтыя мадэлі, выключна падлеткі і нават дзеці, атрымлівалі за здымкі ад 300 долараў і вышэй, у залежнасці ад якасці здымкаў".***

Журналісту былі названы дакладныя адрасы гэтых студый ды прозвішчы іх уладальнікаў, а таксама прапанавана магчымасць сустрэцца з кур'ерам. Гэтаму кур'еру журналіст прапанаваў прывабны здымак маладой дзяўчыны, якая выглядала падлеткам, і той пагадзіўся за яго заплаціць, але з яшчэ большай ахвотай заплаціў бы за здымкі жыўцом.

***"Усё залежыць ад таго, наколькі дзіця гатовае працаваць у "цяжкім жанры" — ну, вы разумееце што я маю на ўвазе",*** — гаворыць журналіст.

Непасрэдна ў студыі майму суразмоўцу патрапіць не ўдалося, бо яны добра ахоўваюцца. Але самае цікавае, паводле яго, у тым, як распаўсюджвальнік інфармацыі патлумачыў яе канфідэнцыйнасць. Ён сказаў, што дзейнічае па наводцы аднаго вельмі ўплывовага чыноўніка, які апякуецца гэтым бізнесам. У выніку мой суразмоўца зрабіў наступную выснову:

***"Можна ўявіць, што адзін канкурэнт тапіў другога. Як мінімум ёсць два сайты, і адзін з іх, большы, працягвае дзейнічаць. Расследаванне трэба весці далей. Яны зачапілі толькі дробязь, верхавіну айсберга, а ўсё астатняе дзейнічае дагэтуль".***

Кіраўнік беларускага інтэрнет-партала *tut.by* **Юры Зісер** згодны з такой высновай. Ён мяркуе, што з Беларусі забяспечваецца больш за дзесяць падобных сайтаў і тлумачыць гэта унікальнасцю беларускіх умоў.

***"У Беларусі ўнікальнае супадзенне двух фактараў — танных парнамадэляў і танных інтэлектуальных сіл, якія могуць падтрымліваць такія сайты"***, — гаворыць Зісер.

Юры Зісер, аднак, не ведае пра існаванне беларускай фірмы "Рэгпэй", праз якую нібыта адмываліся зробленыя на дзіцячай парнаграфіі грошы. Ён мяркуе, што брудныя грошы ад продажу дзіцячых парназдымкаў у Інтэрнеце акумуляваліся ў Латвіі, а далей праз яе банкі пераводзіліся ў падстаўныя фірмы іншых краін. У інтэрнет-даведніку "Бізнес Беларусі" няма звестак пра фірму "Рэгпэй".

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ.**
*(Радыё "Свабода")*

Народная Воля 20 СТУДЗЕНЯ 2004 г.

ПУЛЬС

## Конкурс на забудову цэнтра

Камітэт эканомікі Мінгарвыканкама аб'явіў аб пачатку конкурсу інвестыцыйных праектаў на права праектавання, будаўніцтва і эксплуатацыі гандлёвага цэнтра, які будзе размяшчацца па праспекце Машэрава,39. Меркаваныя тэрміны будаўніцтва — 2004—2005 гады.

Пераможцам будзе прызнаны прэтэндэнт з вопытам будаўніцтва і эксплуатацыі гандлёвых цэнтраў, які прадаставіць найлепшыя ўмовы.

Конкурс адбудзецца 24 лютага. Прыём прапаноў вядзецца да 20 лютага.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Трашчаць дахі ад снегападаў

Паводле аператыўных звестак, за суткі ў выніку снегападу зарэгістравана 18 абвальванняў дахаў будынкаў рознага прызначэння, 2 будынкі разбураныя, паведамляе МНС Беларусі.

У выніку абрушэнняў у асноўным пацярпелі сельскагаспадарчыя збудаванні, у тым ліку 4 цялятнікі і кароўнікі, 3 сенасховішчы, 2 стайні, 3 склады рознага прызначэння, збожжасховішча. Разбураны зачынены вясковы клуб і будынак для захоўвання фуражу.

Большая частка абрушэнняў зарэгістравана ў Віцебскай вобласці. Пад цяжарам снежнага покрыва абваліліся дахі 11 будынкаў. Астатнія абрушэнні адбыліся ў Гродзенскай і Мінскай абласцях.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Міжкультурныя камунікацыі

У Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы з другога семестра ўводзіцца вывучэнне студэнтамі старэйшых курсаў новай спецыяльнасці, якая называецца "лінгвістычнае забеспячэнне міжкультурных камунікацый". Прычынай яе адкрыцця, паводле слоў загадчыцы кафедры тэорыі і практыкі англійскай мовы Людмілы Серады, стала актуальнасць рознабаковых кантактаў з замежнымі партнёрамі.

Выпускнікі, якія атрымаюць гэтую прафесію, як патлумачыла яна, будуць не толькі свабодна валодаць як мінімум дзвюма замежнымі мовамі, але і, што не менш важна, добра арыентавацца ў дзелавым і культурным жыцці краіны-партнёра, ведаць асаблівасці яе рынку і менталітэту яго прадстаўнікоў. Менавіта адсутнасць такіх ведаў, лічаць у ГрДУ, часта шкодзіць наладжванню трывалых дзелавых сувязей з замежнымі калегамі.

**Віктар МАКАРЭВІЧ.**

## Каляндар гульняў зборнай Беларусі ў адборачным турніры

У Рыме завяршылася пасяджэнне прадстаўнікоў зборных пятай адборачнай групы чэмпіянату свету па футболе, што пройдзе ў Германіі ў 2006 годзе. Аб гэтым паведаміў сайт "Беларускі футбол".

Беларуская зборная правядзе першы матч 8 верасня 2004 года ў гасцях супраць зборнай Нарвегіі, затым 9 кастрычніка ў Мінску згуляе з Малдовай, 13 кастрычніка — у гасцях са зборнай Італіі.

30 сакавіка 2005 года беларусы наведаюць з візітам Славенію, 4 і 8 чэрвеня ў Мінску згуляюць са зборнымі Славеніі і Шатландыі. 3 верасня — у гасцях з Малдовай, 7 верасня прымуць у Мінску зборную Італіі. 8 кастрычніка беларусы адправяцца ў Шатландыю, а завершаць адборачны турнір 12 кастрычніка 2005 года гульнёй дома са зборнай Нарвегіі.

**Алег РАЯВЕЦ.**

## Гінуць у агні

40 чалавек загінулі падчас 178 пажараў, што адбыліся ў Беларусі за апошні тыдзень.

Агнём знішчана 11 пабудоў, дзве адзінкі тэхнікі, 32 тоны кармоў, пашкоджана 110 пабудоў і 13 адзінак тэхнікі. Урон ад пажараў склаў 89,6 млн. рублёў. Усяго з пачатку года ў Беларусі зафіксавана 578 пажараў, альбо на траціну менш за аналагічны мінулагодні паказчык. Паменшыўся на 38 працэнтаў і паказчык людзей: з пачатку новага года загінулі 113 чалавек.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Пажартавалі

У гараддзел міліцыі Давід-Гарадка патэлефанавала спачатку дзяўчына і паведаміла аб тым, што замініравана Хорская сярэдняя школа і яна хутка ўзарвецца. Праз некалькі хвілін паступіла яшчэ адно тэлефанаванне. Цяпер ужо падлетак абураўся, што міліцыя нічога не робіць і школа хутка ўзарвецца.

Але неўзабаве было ўстаноўлена, што тэлефанавалі са Столінскага аўтавакзала, і міліцыя высветліла іх асобы. Імі аказаліся 9-класнік Хорскай сярэдняй школы і яго 22-гадовая сястра, якая жыве ў гэтай жа вёсцы, працуе даяркай, а зараз знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку.

Жартаўнікі нават не паспелі пакінуць вакзал, як міліцыя зняла іх з рэйсавага аўтобуса. У школе ў гэты дзень так і не даведаліся, што будынак быў "замініраваны", бо з прычыны затрымання падазроных ніякіх спецыяльных мерапрыемстваў міліцыя не праводзіла.

## Паспрабаваў адкупіцца

Індывідуальны прадпрымальнік з Мінска, затрыманы ў Баранавічах, спрабаваў адкупіцца ад супрацоўніка Баранавіцкага ГАУС старшага лейтэнанта міліцыі хабарам у 300 долараў ЗША.

Ён быў затрыманы за тое, што на асабістым мікрааўтобусе "Мерседэс-Бенц" перавозіў без суправаджальных дакументаў цукеркі і кофе на суму 41 мільён 380 тысяч, а таксама цыгарэты на суму 75 тысяч рублёў.

Затрыманы быў дастаўлены ў гараддзел міліцыі для разбору. Тут ён вырашыў, што за нескладанне акта аб правапарушэнні трэба заплаціць супрацоўніку міліцыі. Старшы лейтэнант грошы не ўзяў і заявіў, што яму спрабавалі даць хабар.

У выніку ў дачыненні да індывідуальнага прадпрымальніка ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 431 (дача хабару), а перавозімы ім тавар і мікрааўтобус канфіскаваныя да рашэння суда.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Туман

У вучылішчы, дзе Раман Даўгапольскі выкладаў электратэхніку, быў сход, і таму з работы ён прыехаў позна. На ўскрайку пасёлка, дзе стаіць яго дом, свяціў адзін на ўвесь мікрараён ліхтар, і пад ім на бардзюры сядзелі хлопцы, стаялі купкай дзяўчаты. Невядома чаму мясцовая моладзь мела звычку бавіць час менавіта там, пад ліхтаром. Як толькі сцямнее, так і збіраюцца.

Была сярэдзіна кастрычніка. Дні стаялі цёплыя, але ноччу з кустоў выпаўзаў халодны туман і ахутваў усё наваколле. Днём ён мог праліцца нудным дажджом, а мог і падняцца, пусціўшы на зямлю развітальнае сонечнае цяпло.

Як толькі заехаў на падворак, на ганак выскачыла жонка:

— Раман, не заганяй машыну ў гараж. Прыйдзецца табе з'ездзіць у Баранавічы, сустрэць з начнога цягніка Таню. Яна прыедзе з Брэста, каб дапамагчы нам убраць буракі. Зараз, можа, мароз прыцісне, а наша дзялка яшчэ не пачата.

Гэта паведамленне яго, канешне, не ўзрадавала. Стаміўся на рабоце, потым на сходзе гадзіны дзве слухаў: калегі пералівалі з пустога ў парожняе, так нічога толкам і не вырашыўшы, як трэба выхоўваць навучэнцаў, каб не пілі, не курылі, не кралі. А тут яшчэ ў Баранавічы едзь. Але ж нічога не зробіш: жончыну сястру сустрэць трэба, бо і сапраўды з гэтымі буракамі яны і да Каляд не ўправяцца.

Раман павячэраў, паглядзеў нейкі фільм па тэлевізары і накіраваўся ў дарогу. Ехаць прадстаяла ледзь не сотню кіламетраў. Была дванаццатая гадзіна ночы, цягнік прыходзіў у дзве, так што часу хапала.

Калі стужка асфальту спусцілася ў нізіну, з кустоў алешніку выплыў густы туман. Ехаць стала цяжка. Бачнасць зусім звужалася, калі асляплялі сустрэчныя машыны. Некаторыя вадзіцелі не пераключаліся на бліжняе святло, і тады нейкае імгненне ён зусім нічога не бачыў. Нечакана "Жыгулі" моцна страсянуліся. Узнікла ўражанне, што нешта стукнула аб капот і бампер. Ён спыніўся, выйшаў з машыны. Непадалёку на абочыне дарогі ніцма ляжаў чалавек.

— Чалавека забіў!!! - маланкай пранеслася ў галаве. Цела скаваў смяротны жах, перад вачамі ясна ўявіліся турэмныя краты. Ён стаяў і не мог паварушыцца, а чалавек ляжаў і таксама не варушыўся.

Калі здранцвенне крыху прайшло, хацеў падысці бліжэй, паглядзець — хто, ці жывы, ці дыхае? Але раптам на дарозе ў тумане заблішчэлі фары машыны.

— Уцяку! Ніхто ж не бачыў, ніхто не дакажа... Ці мала хто каго мог тут збіць.

Раман сеў за руль і ледзь завёў машыну, бо рукі дрыжэлі, ногі не слухаліся. Але страх гнаў наперад. Праехаў яшчэ кіламетраў з дзесяць і навакольнымі дарогамі вярнуўся ў пасёлак. "Ніякіх Баранавіч, ніякай сваячкі! Трэба паглядзець машыну, ці не засталося дзе слядоў, а калі засталіся, то неадкладна ліквідаваць іх".

У хаце святла не было. Жонка спала. Ён адчыніў дзверы гаража і паволі заехаў туды, уключыў святло. Цяпер увесь свет сціснуўся да памеру гэтай невялічкай будыніны. Усё, што рабілася за яе сценамі, Рамана не цікавіла. Трэба было ратаваць сваю скуру. Ён падышоў да машыны спераду і ўбачыў, што бампер і капот пагнуты. Стараючыся не нарабіць шуму і не пабудзіць суседзяў, пачаў выраўноўваць. Пасыпалася фарба.

— Усё пустое, — падумаў з горыччу. — Каб замесці сляды, трэба загнаць машыну да добрага майстра, каб і выраўняў, і зашпакляваў, і пафарбаваў. А так на вуліцу высоўвацца нельга, бо ўсякі спытае: што гэта ў цябе з машынай?

Рашэнне прыйшло хутка. У невялікім гарадку за семдзесят кіламетраў ад іхняга пасёлка жыў Раманаў брат, а яго сусед якраз і займаўся рамонтам машын. "Да раніцы паспею і туды заехаць, і назад вярнуцца. Брата папрашу, каб прывёз", — падумаў.

Брату Раман расказаў усё. Той паабяцаў дапамагчы адрамантаваць машыну і згадзіўся завесці Рамана дадому.

Яны прыехалі ў пасёлак, калі ў дамах яшчэ не гарэла святло: местачкоўцы любяць паспаць. Вокны дома, дзе жыў Даўгапольскі, таксама былі цёмныя. Ён адамкнуў дзверы сваім ключом і разам з братам увайшоў у цёплае памяшканне. Пачуўшы крокі, прачнулася жонка. Яна выйшла са спальні, хутаючыся ў квяцісты халат.

— Во, замест маёй сястры прывёз свайго брата! — здзівілася, вітаючыся з Сяргеем. — А дзе ж Таня?

— Відаць, на цягнік не паспела. Пазней прыедзе, — зманіў Раман.

— Вось табе і на! — абурылася жонка. — І гэта не прыехала, і сын невядома дзе цягаецца цэлую ноч. А вернецца раніцай, дык спаць заваліцца.

— А што, Міша з арміі вярнуўся? — здзівіўся брат. — Я і не ведаў.

— Тыдзень ужо, як вярнуўся, ды адразу ж да дзеўкі ў суседнюю вёску ўлёг. Мо жаніцца будзе, а на работу ўладкоўвацца не спяшаецца.

— А навошта яму тая работа? Паспее яшчэ, няхай пагуляе. Ён жа ў вас адзін, так што і абуецца, і адзенецца. Не пяцёра ж, як у мяне, — не то з гонарам, не то са шкадаваннем сказаў брат.

Жонка хуценька згатавала сняданак, яны перакусілі, і брат паехаў дадому. Раман ужо апрануўся і збіраўся ісці на работу, як раптам дзверы адчыніліся і ў хату ўбегла суседка.

— Кацярынка, Раманка... — прастагнала яна і, закрыўшы твар далонямі, загаласіла. Гаспадары няўцямна пазіралі на яе.

— Што здарылася? — апамятаўшыся, падбегла да суседкі жонка. — Бяда якая?

— Ой, бяда, Кацярынка, ой, бяда... Вашага Мішу на дарозе збіла нейкая машына. Вадзіцель з месца здарэння ўцёк, не дапамог яму, не завёз у бальніцу, вырадак. Мой зяць, які ўрачом на "хуткай дапамозе" працуе, пазваніў мне і сказаў. Кажа, каб хто раней нарваўся, то хлопца можна было б выратаваць, а так надта шмат крыві страціў і памёр. Машыны па дарозе ехалі і вадзіцелі, відаць, думалі, што п'яны ляжыць. Туман жа, свету не відаць, — апавядала суседка.

Кацярына без прытомнасці асунулася долу. Суседка пабегла па нашатыр, а заадно і выклікаць "хуткую дапамогу", бо ў Даўгапольскіх тэлефона не было. А што рабілася з Раманам — словамі не перадаць: жах, боль, віна звіліся ў вяроўку і душылі за горла, стрэламі праціналі сэрца. Нібы п'яны, ён пайшоў на ганак і сеў на вільготныя прыступкі. Туман быў наўкола яго, туман быў у яго галаве, у душы, у свядомасці.

Прыехала "хуткая дапамога". Кацярыне, відаць, зрабілі нейкія супакойваючыя ўколы, бо яна неўзабаве выйшла на ганак і невідушчымі вачамі паглядзела на Рамана, спакойна спытала:

— Што будзем рабіць, як выпраўляць свайго адзінага сыночка ў апошнюю дарогу? Трэба, каб міліцыя абавязкова знайшла таго вырадка, што збіў нашага Мішу. Збіў і не пагледзеў, ці жывы. А яго ж у бальніцу трэба было. Дактары выратавалі б...

— Ага, урач сказаў, ён яшчэ з гадзіну жыў пасля аварыі, — прамовіла фельчар "хуткай дапамогі", якая, набраўшы лекаў, хацела зрабіць укол Раману. Ён адмовіўся. Ён хацеў памерці.

— Знойдуць злачынцу, абавязкова знойдуць, — суцешыла суседка, калі медыкі паехалі ад варот. У яго ж на машыне, пэўна, нейкія сляды засталіся. Быць не можа, каб не засталіся, гэтак хлопца стукнуў.

Далей слухаць Раман не мог. Ухапіўся з ганка і пабег на той канец пасёлка, дзе знаходзіцца пасялковы Савет. Там ёсць кабінет участковага. Але капітана Навумчыка не было. Тады ён увярваўся да старшыні:

— Пазваніце ў міліцыю! Гэта я забіў свайго сына! Але я... не хацеў гэтага.. не хацеў!

Калі прыехала міліцыя, папрасіў, каб забралі яго, зачынілі ў камеры і не выпускалі ніколі, каб ён там згніў, памёр! Не мог бачыць звар'яцелыя ад гора вочы жонкі, не мог глянуць на сына, які будзе ляжаць у труне, у магіле... А бацька будзе хадзіць па зямлі і бачыць чорнае сонца, чорныя кветкі, чорныя дамы...

Раману дазволілі пайсці на пахаванне Мішы, але ён не пайшоў. Людзі асуджалі. І правільна рабілі, але ён не мог, не мог... Ляжаў на нарах без ежы і вады амаль цэлы тыдзень. Яго не трывожылі. І калі аброслы, схуднелы і страшны нарэшце ўстаў на ногі, яго адпусцілі. Не хацеў ісці дадому. Адправілі. Да суда.

Але і суд той збавення не прынёс. Ён пакінуў Рамана на волі, прысудзіўшы тры гады ўмоўна. Мабыць, ведалі суддзі, што горшай кары, якую Даўгапольскі зрабіў сам сабе, ужо не прыдумаеш.

Хацеў накласці на сябе рукі, але верыў у Бога і пабаяўся прыняць на душу яшчэ адзін грэх.

— Божа! Чаму я не спыніўся ў тую туманную ноч, не падышоў да сына, не завёз яго ў бальніцу? І калі б нават гэта быў не мой Міша, то ўсё роўна чыйсьці сын, муж ці бацька, — дакараў сябе Раман доўгімі бяссоннымі начамі.

Позна прыйшло разуменне таго, якімі мы іншы раз бываем эгаістычнымі, бяздушнымі ў адносінах да чужой бяды. І толькі калі яна возьме за горла цябе самога, сцісне так, што ні дыхнуць, ні глянуць на белы свет, тады разумееш. Ды позна, позна...

Раман жыве, як у тумане. Смерць яму здаецца вялікай раскошай. Але яе, відаць, таксама трэба заслужыць.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ПАМЯЦЬ

# Адышоў, каб застацца назаўсёды

*У мінулую суботу ў Польшчы скончыў зямны шлях Чэслаў Немэн. Скончыў, як гэта ні крыўдна, заўчасна, на 65-м годзе жыцця. Гэты музыкант быў знакавай фігурай для майго пакалення, чыя ранняя маладосць прыпала на канец 60-х пачатак 70-х гадоў. Кумірамі для нас, хаця і неафіцыйнымі, былі "Бітлз" з Вялікабрытаніі, Уладзімір Высоцкі з Савецкага Саюза, Чэслаў Немэн з суседняй Польшчы.*

Не ўсе ведаюць, што вялікага польскага музыканта дала свету родная зямля Адама Міцкевіча. Чэслаў нарадзіўся 16 лютага 1939 года на Наваградчыне, у вёсцы Старыя Васілішкі, дзе ён правёў першыя 19 гадоў жыцця. У 1958 годзе яго сям'я ў рамках так званай рэпатрыяцыі выехала з Беларусі ў Польшчу, у невялікі гарадок Бялагард каля Гданьска. Тады большасць беларускіх грамадзян, што здолела пацвердзіць польскія карані, імкнулася перабрацца з савецкага "барака" ў "барак" польскі, які лічыўся, і справядліва, найбольш вясёлым у "сацыялістычным лагеры".

Бацька будучага музыканта вельмі хутка памёр пасля пераезду. "Старыя дрэвы не перасаджваюць", — сказаў неяк Немэн у інтэрв'ю польскай газеце "Жэчпасполіта". Чэслаў паступіў у Гданьскае музычнае вучылішча. Тут і з'явіўся першы раз на сцэне ў студэнцкім клубе "Жак". Пачынаў выступаць пад сваім сапраўдным прозвішчам Выдрыцкі. А Немэнам стаў крыху пазней, калі пачаў спяваць у гурце "Блакітна-чырвоныя". У першай палове 60-х гадоў гурт некалькі разоў выязджаў выступаць у слыннай парыжскай зале "Алімпія". Кружыла легенда, што аднойчы ў Немэне адбылася рашучая змена. У Францыю выехаў тыповы польскі бігбітавы вакаліст, а праз пару месяцаў з самалёта ў варшаўскім аэрапорце "Акенце" выйшаў спявак-зорка. У каляровым, нават стракатым адзенні, доўгавалосы. Як піша "Газета выборча", сваім іміджам Немэн проста шакіраваў публіку "ў сярмяжнай гамулкаўскай Польшчы".

Немэн хутка ўзяў сваю кар"еру ва ўласныя рукі. Выступаў з гуртамі "Акварэль", "Энігматык", "Немен", нарэшце, з групай "Аэраліт". Аднак самым знакавым у кар"еры музыканта быў удзел у фестывалі польскай песні ў г. Аполе, дзе ён выканаў знакамітую песню "Гэты дзіўны свет" ("Dziwny jest ten swiat").

У пачатку 70-х Немэн запісваў музыку з джазменамі, спяваў вершы знакамітых польскіх паэтаў (Норвіда, Асныка і г.д.), спрабаваў пакарыць заходнія рынкі — выступаў у Нямеччыне, Італіі, ЗША.

Яго не цікавіла ўласная слава. Ён папросту, як сам казаў, хацеў спяваць. І не толькі спяваць. Ён маляваў карціны, пісаў вершы і артыкулы ў часопіс "Толькі рок". І вельмі шмат кампанаваў. Яго кампазіцыі спявала знакамітая Марлен Дзітрых.

Немэн ужо працяглы час хварэў. Толькі самыя блізкія ведалі аб яго няроўнай барацьбе з цяжкай хваробай. Ён не хацеў, каб пра яго недамаганне ведала грамадскасць. Перад Калядамі адбыўся чарговы наступ хваробы...

Толькі адзін месяц не дажыў да свайго 65-га дня нараджэння. Адышоў, каб застацца. Назаўсёды.

**Міхаіл БАЦЯН.**

ТРЕВОГА!

# Ползучее варварство

***Несколько дней назад Ирине Маковецкой, журналистке "Белорусской деловой газеты", ночью позвонил неизвестный с угрозами. Ей вспомнили многочисленные статьи, написанные в газету, в том числе и ту, в которой рассказывалось о том, как готовилась диссертация вторым официальным лицом государства. Угрозы в адрес милой и умной женщины не так безобидны и свидетельствуют о целенаправленной политике удушения независимой прессы в стране.***

**Людмила ГРЯЗНОВА**

Многие помнят слова главы государства, сказанные в 1995 году по отношению к немецкому порядку в фашистской Германии. Неслучайно брошенная фраза уже тогда сказала многое о создаваемой в стране политической модели. Сразу не хотелось верить в такое будущее, но реальность оказалась довольно мрачной, конечно, не фашистской, но жестко авторитарной. Мы стали свидетелями того, как в Беларуси стала создаваться закрытое общество, правда, не в эпоху промышленной цивилизации, как в Германии, а в период глобальных информационных изменений.

Главным методом подавления прав человека, подчинения всех и вся авторитарной власти сегодня являются не массовые репрессии, не "Гулаги" и концентрационные лагеря, а средства массовой информации. С их помощью люди превращаются в биомассу, в послушных роботов государственной машины, лишенные воли и прав. Новое средневековье, новое варварство становится явью при манипулировании сознанием людей мощнейшими электронными СМИ.

Предупреждения великих мыслителей Древней Греции, эпохи Возрождения и нашего времени сбываются — на любом отрезке исторического развития возможен откат общества к племенному состоянию, когда от испуга перед новыми вызовами растерянные люди ведут себя, как малые дети, полагаясь на чужую волю. Правители же, движимые корыстными и мессианскими побуждениями, относятся к обществу не по-отцовски, как к неразумному дитяти, а грубо, по-хамски, как к стаду.

Чтобы поставить всех на колени, власть сразу монополизировала электронные СМИ, установив полный диктат над общественными радио и телевидением. Не колеблясь, не допуская никаких сантиментов во всех передачах, в той или иной степени связанных с политикой, звучит только один мотив, вернее, барабанный бой одного-единственного исполнителя. Помню, как в 1996 году на радио и телевидении появились списки тех, кому запрещено выступать в студиях и давать интервью журналистам. До мая месяца мы, депутаты Верховного Совета 13-го созыва, могли хоть как-то обращаться к белорусскому народу через электронные СМИ, после мая мы исчезли как публичные политики.

Все последующие годы свободная мысль доходила до людей только через независимые газеты и фрагментарно через российское телевидение. Худо-бедно, с огромными трудностями несколько десятков центральных и региональных изданий находили своих читателей. Но за последние три года ситуация в этой сфере резко ухудшилась, что обусловлено не только общей стратегией авторитарной власти по вытеснению неподконтрольной прессы, но и тактическими причинами сегодняшней политики.

Ни для кого не секрет, что социально-экономическое положение страны ухудшилось. Экономика государственного регулирования дышит на ладан, вместе с нею нищает народ, проявляющий недовольство и недоверие к власти. Скудеет внешняя подпитка из России. Для удержания ситуации под контролем власть идет на усиление идеологического давления. И здесь для нее независимые СМИ как кость в горле. Кроме того, их существование никак не вписывается в планируемое продление президентских полномочий нынешнего руководителя страны. Чтобы "элегантно" добиться желаемых результатов, необходимы сверхусилия, в том числе и по зачистке оставшихся "островков" свободомыслия.

Когда анализируешь на протяжении последних лет нарушения прав человека в стране, обнаруживаются некоторые особенности подавления свободы слова здесь. Свобода у журналистов откусывается постепенно. Она не проглатывается целиком. Такая тактика не вызывает резкой реакции. Гражданское общество, будучи незрелым и слабым, не дает должного отпора, так как не замечает зловещей тенденции из-за ее медленного, ползучего развития. Сначала власть пристальное внимание уделяла центральным изданиям, душила в административном, экономическом и судебном порядке. Расправившись с ними, взялась за региональные издания, увидев в них угрозу своего существования. Арсенал средств подавления независимых СМИ из года в год расширяется.

В результате продуманной политики независимые СМИ оказались в резервации — их количество резко сократилось, тиражи упали. Если и дальше такая тенденция будет продолжаться, то, по словам редактора "Белорусского рынка" Вячеслава Ходосовского, свободные СМИ окажутся в виртуальной резервации, т.е. в Интернете.

Подобные процессы происходят и в других постсоветских странах — России, Казахстане, Азербайджане. Создается такое впечатление, что процессы моделируются из одного и того же центра, одним и тем же стратегом. Возможно, что лидеры этих государств обмениваются "передовым" опытом, создавая под себя так называемые режимы "управляемой демократии". Исходя из более "продвинутого" опыта Казахстана, можно предположить, что и у нас будет блокироваться Интернет.

Главное, с исчезновением независимых СМИ в стране обесцениваются не только постперестроечные усилия по формированию открытого общества, сама перспектива его создания исчезает на неопределенный срок. Тот, кто спланировал стратегию уничтожения свободных СМИ, ударил в самое сердце гражданского общества. Те, кто позволил это сделать, совершили непростительную ошибку. Наступление нового варварства в эпоху информационной цивилизации происходит на наших глазах за счет использования новейших информационных технологий, подкупа и запугивания интеллектуальной элиты и общей апатии населения.

## Якія тавары лепшыя

*Паводле інфармацыі Гродзенскага аблвыканкама, у конкурсе "Лепшыя тавары Беларусі на рынку Расійскай Федэрацыі" пераможцамі прызнаныя ААТ "Лакафарба" горада Ліды (фасадная фарба і насычальны састаў) і ААТ "Смаргонскія малочныя прадукты" (малако сухое).*

Лаўрэатамі конкурсу "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь" сталі: ААТ "Лакафарба", ААТ "Краснасельскбудматэрыялы" (цэмент маркі 500-Д20 і 500-ДО), ААТ "Белакт" (прадукт сухі малочны для дзіцячага харчавання "Алеся", ёгурт з біфідакефірам, смятана "Традыцыйная"), ААТ "Гродна Малкамбінат" (марожанае пламбір "Ух, ты!"), сыр сычужны "Пашахонскі", напой кісламалочны "Радужны", УП Белкаапсаюза "Гродзенская зверагаспадарка" (футра норкі клетачнай), беларуска-польскае СП "Бел-Пласт" (бутэлькі пластыкавыя трох серый), ААТ "Ваўкавыскі мясакамбінат (рулет вэнджана-запечаны "Сытны", каўбаса вараная "Святочная", пельмені замарожаныя "Ваўкавыскія сакавітыя"), прыватнае унітарнае трыкатажнае прадпрыемства "Ромгіль" (світэры мужчынскія і жаночыя), РУП "Навагрудская швейная фабрыка" (штаны мужчынскія).

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

АВТОБИЗНЕС

# Все на «Моторшоу»: себя показать и на машины поглазеть...

***Белорусские «VIP-персоны» сметают со столов шоколад, каталоги и вырывают из рук девушек шампанское.***

*Так говорит один из организаторов международного автосалона «Моторшоу», генеральный директор агентства «Ремарк» **Дмитрий Ярота**.*

Международный автосалон "Моторшоу" — главное событие года в автомобильной жизни Беларуси. В этом году "Моторшоу" впервые будет проходить в спортивно-зрелищном комплексе на проспекте Машерова (футбольный манеж). Данный комплекс является самой большой в Беларуси крытой площадкой (12.000 м$^2$).

*"В минувшем году мы не могли предоставить всем участникам выставки такую площадь, какую они просили,* — говорит Дмитрий Ярота. — *Например, дилер "БМВ" всегда говорил, что им надо как минимум 500 м$^2$, но в спорткомплексе в Уручье они могли рассчитывать на гораздо меньшую территорию. В этом году проблем с площадями не возникнет".*

Для удобства посетителей организаторы кардинально изменили режим работы "Моторшоу". В будние дни выставка будет работать *до 21 часа*, чтобы все, кто не имеет возможности посетить "Моторшоу" в выходные, смогли сделать это после работы.

Цена билетов на "Моторшоу" останется на уровне прошлого года. Так, детский билет будет стоить от 5000 до 8000 тысяч рублей, взрослый — 15.000 белорусских рублей. Как и в предыдущие годы, предварительная продажа билетов на международный автосалон "Моторшоу" будет осуществляться со скидкой (по цене 10.000 рублей). Она начнется задолго до открытия выставки во всех городах страны.

VIP-билет на международный автосалон "Моторшоу" стоит 50 тысяч рублей. За эти деньги особо важным персонам предложат бокал шампанского, шоколад, каталоги и возможность посидеть за рулем любого понравившегося автомобиля.

*"В прошлом году около восьми тысяч так называемых белорусских VIPов буквально вырывали из рук наших девушек бокалы с шампанским, разметали конфеты и каталоги,* — рассказывает Дмитрий Ярота. -- *Поэтому мы пересмотрели концепцию VIP-дня. Как всегда, он пройдет в первый день работы выставки. Однако, в отличие от прошлых лет, посетить "Моторшоу" в этот день смогут не все желающие. В этом году будет выпущено всего 2000 билетов по цене 50 тысяч белорусских рублей. Пригласительные билеты на посещение выставки в этот день не предусмотрены. Это даст возможность создать на "Моторшоу" действительно VIP-обстановку, которая позволит уделить достаточно времени и внимания каждому посетителю".*

Ожидается, что с 4 по 9 мая в "Моторшоу" примут участие практически все фирмы, чья деятельность связана с автомобильным бизнесом. Правда, в этом году на автосалоне не будут представлены модели "Ауди", так как "Ауди" намерены участвовать в "Моторшоу" раз в два года.

Как отметила генеральный директор Белорусской автомобильной ассоциации **Людмила Шабанова**, на "Моторшоу" будут представлены не все новинки крупнейших автопроизводителей.

*"Многие дилеры готовы представить свои самые свежие модели, однако мы, к сожалению, не можем обеспечить им льготы на временный ввоз",* — говорит она.

По словам Дмитрия Яроты, ежегодно в Беларуси регистрируется более трех тысяч иномарок. Совершенно новые автомобили в Беларуси приобретают порядка 10 тысяч человек.

**Марина КОКТЫШ.**

**На снимке:** *такие очереди выстраивались на "Моторшоу 2003".*

Народная Воля
20 СТУДЗЕНЯ 2004 г.

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Самолет срочно посадили из-за записки на туалетной бумаге




Самолет американской авиакомпании Delta Airlines, вылетевший из Франкфурта в Атланту, совершил вынужденную посадку в аэропорту ирландского города Шеннон. Причиной вынужденной посадки "Боинга 767-300" стали соображения безопасности. После посадки все 147 пассажиров рейса были эвакуированы, а сотрудники спецслужб приготовились к тщательному досмотру лайнера. Решение посадить самолет было принято после того, как в туалете обнаружили записку на туалетной бумаге о заложенном в лайнере взрывном устройстве.

## Китай приказал США напомнить Тайваню, кому он принадлежит

Китай призвал США оказать давление на Тайвань с целью недопущения последним любых сепаратистских шагов. "Китайское руководство обратилось к администрации США с просьбой продемонстрировать ее приверженность политике признания Китая как единого государства и противодействовать любым попыткам властей Тайваня изменить статус-кво", — заявил официальный представитель Министерства иностранных дел.

Напомним, что недавно Пекин обвинил тайваньского президента в намерении фактически провозгласить независимость острова от метрополии, используя референдум, намеченный на март 2004 года. "Это односторонняя провокация тайваньских властей, которая угрожает миру и стабильности в регионе", — уточнили в китайском МИДе.

## Свидетельница гибели принцессы Дианы винит в аварии другой автомобиль

Свидетельница гибели принцессы Дианы, находившаяся в автомобиле, который следовал перед разбившимся "Мерседесом", утверждает, что в аварии виноват водитель другой машины. Суад Муффакир ехала перед автомобилем принцессы Дианы и Доди Аль-Файеда в сером "Ситроене" вместе с приятелем Мохамедом Меджади. По ее словам, внезапно их на высокой скорости нагнал белый "Фиат Uno". Автомобиль некоторое время ехал рядом с "Ситроеном", и Муффакир смогла разглядеть водителя. Женщина утверждает, что "Фиатом" управлял мужчина в возрасте около 30 лет, средиземноморской внешности, низкого роста (его голова едва возвышалась над рулем) и с темными, сильно вьющимися волосами.

Как рассказала свидетельница, у водителя "Фиата" было очень странное выражение лица, будто он думал о чем-то постороннем. Решив, что за рулем безумец, Муффакир попросила Меджади опередить его, и через несколько мгновений они услышали визг шин "Мерседеса".

Муффакир обернулась и увидела, как "Мерседес", потеряв управление, врезался в столб. Белого "Фиата" уже не было, как не было и других транспортных средств. Свидетельница убеждена, что авария произошла, когда водитель автомобиля принцессы Дианы пытался избежать столкновения с "Фиатом".

## В Колумбии раскрыта сеть по легализации денег наркоторговцев

Полиция Колумбии арестовала 13 человек, подозреваемых в отмывании денег. По данным следствия, задержанные причастны к легализации нескольких миллионов долларов, полученных от продажи наркотиков. Для осуществления своих операций они использовали финансовые учреждения Колумбии, США и ряда азиатских стран. Аресты проведены в рамках операции "Божественное проведение", организованной подразделениями по борьбе с незаконным оборотом наркотиков и отмыванием денег.

## Украина не допускает прекращения своего членства в Совете Европы

Председатель Верховной Рады Украины Владимир Литвин не допускает приостановления членства Украины в Совете Европы. "Думаю, что это нонсенс", — сказал спикер на брифинге в Киеве после встречи с содокладчиками мониторингового комитета ПАСЕ Ханне Северинсен Ренате Вольвенд. "Я даже мысли такой не допускаю", — подчеркнул Литвин. Между тем председатель Верховной Рады считает, что рассмотрение на зимней сессии ПАСЕ вопроса о конституционном кризисе на Украине может привести к продолжению противостояния в украинском парламенте. По мнению спикера, рассмотрение "украинского вопроса" в ПАСЕ может привести к тому, что каждая политическая сила в Украине попытается использовать ситуацию с выгодой для себя.

Кроме того, Литвин считает, что сама постановка вопроса о конституционном кризисе в Украине является "необъективной, преждевременной" и может усложнить ситуацию. Спикер убежден, что говорить следует о парламентском кризисе, поскольку Конституция в Украине действует. Он также отметил, что парламентский кризис — "это внутреннее дело каждого парламента".

## Майкл Джексон объявил себя невиновным

Майкл Джексон заявил о своей невиновности в сексуальных домогательствах в отношении несовершеннолетнего. Первое заседание суда по этому делу прошло в калифорнийском городе Санта-Мария.

Против 45-летнего певца, напомним, выдвинуто семь обвинений в развратных действиях в отношении ребенка, не достигшего 14-летнего возраста, и два обвинения в том, что он предлагал несовершеннолетнему спиртные напитки. По данным следствия, это было вино. После того как все пункты обвинения были зачитаны в зале суда и Джексона спросили, понимает ли он, в чем его обвиняют, певец кивнул и заявил, что не считает себя виновным ни по одному из пунктов.

ПУТЕВЫЕ ЗАМЕТКИ

# Социалистическая Швеция

*Однажды шведское грузовое судно застряло на рейде в Сан-Франциско (США), потому что американская часть команды, сойдя на берег, категорически отказалась возвращаться на корабль. Когда журналисты местных газет стали расспрашивать моряков, что стряслось и почему они прерывают контракт, моряки стали жаловаться на то, что шведский кок постоянно кормит их "тухлой рыбой". Дух от нее, по их словам, исходил такой густой, что от него запотевали иллюминаторы, а со стен отваливалась краска.*

*На самом деле термин "тухлая рыба" был присвоен американскими матросами знаменитому шведскому деликатесу под названием "стурстромминг". Автор не рискнул подвергнуть свой желудок испытанию этим деликатесом, зато неоднократно удивлялся сладкой селедке, которую подают в Швеции на завтрак вместе с мюслями, кофе и жареными вафлями. Почему селедка в Швеции сладкая, мне никто толком объяснить так и не смог. Видимо, какая жизнь, такая и селедка...*

*(Окончание. Начало в №№.247—249 за 2003 г., №№3—6)*

### Дом отдыха ... за решеткой

Сладкая жизнь в Швеции, похоже, не только у законопослушных ее граждан, но и у зеков. Когда некоторые коллеги после моего возвращения из Швеции увидели фотографию шведской тюрьмы (см. снимок), они спросили: "Это что? Школа или детский садик?" "Это — тюрьма!" — невозмутимо ответил я.

В тюрьме, которую мы посетили, сидят 200 человек, из них 60% — это иммигранты. Всего же в Швеции 5000 заключенных, котрых "обслуживают" 9000 тюремщиков. Расходы шведского правительства на пенитенциарную систему составляют около 1 миллиарда долларов в год, или более 160 тысяч долларов в расчете на каждого заключенного.

Кроме сидения в камере зеки могут посещать уроки компьютерной грамотности, математики, обществоведения, шведского языка, психологической реабилитации, даже посещать автошколу и даже (!!!) получить водительские права. Причем в свидетельстве об окончании курсов или правах не указывается, что они получены в тюремной гимназии. Что значительно облегчает поиск работы после выхода зека на свободу.

В каждой камере стоит телевизор, на Новый год заключенных отпускают домой. За последние несколько лет побег из тюрьмы совершил только один заключенный, который вскоре сам и вернулся. С вопросом: *"А что мне на воле делать? На работу не устроишься, социальное пособие не получишь..."*

Кстати, по статистике, в Швеции, стране с почти десятимиллионным населением, совершается всего 15 убийств в год.

### Дорогие мои старики!

*"Во времена викингов самым большим бесчестьем, граничащим с трусостью,* — пишет Петер Берлин, — *считалось дожить до глубокой старости и умереть после всех многочисленных битв и сражений в собственной постели. Если у такого несчастного было два сына, то он мог спасти свою честь, приказав им сбросить себя с высокого обрыва. Скала, где совершался этот обряд избавления от позора, получила название "утес предков".*

Сегодня отношение к старикам в Швеции исполнено гораздо большего сочувствия. Средняя продолжительность жизни составляет 75 лет — у мужчин и 81 год — у женщин. На "утес предков" больше никто не взбирается. Шведские старики предпочитают взбираться на трап самолета и путешествовать по миру, — за накопленные за жизнь средства и имеющуюся пенсию.

Как я уже писал во второй части материала, средняя пенсия в Швеции — 1800 долларов США. В месяц на лекарства у пенсионера уходит не более 20 долларов, остальную сумму компенсирует государство...

### Траффик

Так называют в Швеции и вообще во всем мире продажу людей в рабство, — чаще всего сексуальное. Проститутки-рабыни — это настоящая проблема для Швеции, несмотря на то, что проституция законодательно запрещена в этой стране. Пойманная на "месте преступления" проститутка и ее сутенер могут быть подвергнуты крупному штрафу или получить тюремный срок от двух до десяти лет. Штрафуют или заключают в тюрьму также и клиента, причем вне зависимости от того, успел ли он воспользоваться услугами путаны или нет.

Тем не менее подпольные бордели в Швеции работают. Стоимость услуг проституток колеблется от 15 до 30 долларов в час. Половину суммы, как правило, получает сутенер, половина остается проститутке. Клиентов ищут через третьих лиц или Интернет. Львиная доля проституток в Швеции — девушки из бывшего СССР, прежде всего из России, Украины и Беларуси. Томас Экман, старший инспектор уголовной полиции Гетеборга, так описывает стандартный способ попадания наших девушек в сексуальное рабство: *"Как правило, девушке обещают работу танцовщицы или певицы, даже обещают жениться. Привозят в Швецию, насилуют и продают другому сутенеру".*

Г-н Экман по моей просьбе, не называя фамилий, привел пример с двумя девушками из Беларуси. *"Два гражданина Литвы встретили девушек в Беларуси, пригласили в Вильнюс поработать в ресторане. В Вильнюсе изнасиловали, запугали смертью и вывезли в Швецию, где перепродали в подпольный бордель. В Швеции они долгое время работали по такой схеме: 50% дохода шло шведским сутенерам, 25% — литовским и только 25% оставалось самим девушкам".*

Среди клиентов, как утверждает инспектор полиции, чаще всего встречаются наркоманы, моряки дальнего плавания, иммигранты и только на последнем месте — сами шведы. Среди проституток встречаются и мужчины, которых продают как клиентам-мужчинам, так и женщинам или семейным парам.

На мой вопрос, как полиция может защитить жертв траффика, Томас Экман ответил так: *"У нас разработана специальная программа защиты свидетелей, до суда мы можем разместить девушку инкогнито в шведской семье. После суда девушек, как правило, ждет депортация из страны. Тем более, что большинство из них сами хотят вернуться домой".*








### Настоящий шведский анекдот

Два шведских джентльмена ужинают в ресторане. Один из них кивает головой в сторону одиноко сидящего за столиком неподалеку господина и говорит своему сотрапезнику:

— Послушай, это не Свен Свенссон там сидит?

— Нет, не может быть, ведь он уже умер.

— Надо же! А я видел, что он только что жевал!

**Александр СИЛИЧ, Фото автора.**

*Гетеборг.*

**На снимках:** *реклама и ... жизнь; шведская тюрьма; морские чайки в центре Гетеборга.*

**P.S.** Автор благодарит шведский Институт повышения квалификации журналистов FOJO и лично Ларса Холма и Марию Валлин за возможность побывать в Швеции.

ЛЮБОПЫТНО

## Убийца израильского премьера женится в тюрьме

Убийца израильского премьер-министра Ицхака Рабина Игаль Амир, отбывающий тюремное заключение, собирается в ближайшее время жениться. Как сообщает израильский телеканал Channel Two, избранницей Амира стала разведенная мать четверых детей Лариса Тримбоблер, которая неоднократно посещала его в тюрьме.

## Афганское телевидение запретило показывать поющих женщин

Афганское государственное телевидение решило больше не показывать поющих женщин, так как страна еще не готова к такого рода шоу. Поводом для этого стала жалоба Верховного суда, после того как по телевизору была показана песня в исполнении популярной певицы Salma. Телевидение осуществило подобную трансляцию впервые с 1992 года. Однако программный директор Азизулла Арьянфар заявил, комментируя принятое решение, что "текущие обстоятельства не подходят для показа в эфире поющих женщин".

Верховный суд, в котором доминируют консервативно настроенные бывшие воины-моджахеды, часто обвиняет национальные СМИ в нарушении исламских принципов. Однако министр по делам женщин в правительстве Афганистана Хабиба Сураби выступила с протестом, обвинив сторонников шариата "во вмешательстве не в свое дело". Она подчеркнула, что не заметила ничего антиисламского в этой трансляции: певица просто сидела и пела песню о беженцах. На голове у нее был традиционный платок.

Певицы не появлялись на государственном телевидении с тех пор, как моджахеды свергли коммунистический режим Наджибуллы в 1992 году. Когда к власти в 1996 году пришли талибы, они вообще запретили всякое телевидение. После падения "Талибана" два года назад женщины постепенно начинают играть все более заметную роль в жизни страны. Недавно национальный парламент Лойя Джирга принял новую Конституцию, которая предоставляет женщинам равные права с мужчинами.

## Итальянцы загнали вино в таблетки

Специалисты из итальянского фармакологического института в Павии предлагают наладить выпуск таблеток, сохраняющих все компоненты красного вина — кроме алкоголя. Эти таблетки, полученные путем сублимированной сушки, будут весьма полезны для сердечно-сосудистой системы и даже для предотвращения рака, уверяют фармакологи.

Врачи, добавляет BBC news, давно признали, что стаканчик-другой доброго красного вина в день весьма полезен для здоровья. Именно этим объясняется так называемый "французский парадокс" — то есть тот непреложный факт, что французы (а также итальянцы), потребляющие гораздо больше жирного и мучного, чем англичане и американцы, гораздо меньше подвержены инфарктам и прочим болезням, связанным с закупоркой сосудов холестериновыми бляшками.

Дело в том, что красное вино, а также другие основные компоненты "средиземноморской" диеты, такие как томаты и оливковое масло, содержат особые вещества флавонолы, являющиеся антиоксидантами и поддерживающие должный уровень "хорошего" холестерина.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# 150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі

## 105. Як адбывалася Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Беларусі?

Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю (так звычайна называлі гэтую падзею пры савецкай уладзе) беларусы сустрэлі больш як назіральнікі, а не актыўныя ўдзельнікі. Таму ў шэрагах творцаў Кастрычніка ў Беларусі, нягледзячы на вялікія "намаганні" пазнейшых камуністычных гісторыкаў, не відаць тутэйшых дзеячаў, а калі яны й ёсць, то гэта, як правіла, не беларусы.

Галоўных дзейных асобаў рэвалюцыі — Аляксандра Мяснікова, Вільгельма Кнорына, Карла Ландэра, Станіслава Берсана ды іншых — закінула сюды хваля Першай сусветнай вайны. Рэвалюцыю ў Беларусі ажыццяўлялі, такім чынам, чужынцы (паводле азначэння нашага гісторыка Усевалада Ігнатоўскага, "прышлыя" бальшавікі).

Рэвалюцыйныя падзеі аніяк не вынікалі з развіцця тагачаснага беларускага грамадства. Для іх фактычна не было тут сацыяльнай базы. Пра гэта даволі красамоўна сведчаць прызнанні самых бальшавіцкіх функцыянераў: "Моцных сувязяў з рабочымі няма, дзеля блізкасці да фронту наша арганізацыя па сутнасці ваенная" (А.Мяснікоў); "Гэтая шматтысячная маса ў салдацкіх шынялях і была той сама сілай, што ажыццявіла кастрычніцкі пераварот у Менску і на Заходнім фронце"; "25 кастрычніка 1917 года бальшавізм быў чужым для шырокіх масаў" (В.Кнорын).

Наконт рэвалюцыйнасці мясцовага рабочага класа прышлыя бальшавікі ілюзіяў не мелі і таму асаблівых спадзяванняў на яго не пакладалі. Паводле словаў таго ж Кнорына, бальшыня рабочай секцыі Менскага савета складалася тады з бундаўцаў і меншавікоў. Падобна, што менскі пралетарыят застаўся ўбаку ад кастрычніцкіх падзеяў. У "героя рэвалюцыйных барыкадаў" ён ператварыўся пазней, калі савецкія гісторыкі пачалі падганяць падзеі пад свае шаблонныя схемы.

Нацыянальна-дэмакратычныя сілы Беларусі не прызналі законнасці бальшавіцкай улады ў нашай краіне. "Гэтая ўлада была заўсёды чужая, небеларуская. Камуністычную ўладу стварылі не беларускія сяляне і рабочыя, а расейскае войска, якое стаяла на Заходнім фронце", — пісала беларуская газета "Крыніца".

Такім чынам, Кастрычніцкая рэвалюцыя была прынесеная ў Беларусь на расейскіх штыхах. Яна не была тут ні вялікай, ні сацыялістычнай, ні рэвалюцыяй. Гэтую падзею ў нас правільней называць ваенным пераваротам, як, дарэчы, яе й называлі напачатку самі бальшавікі.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ.**

## 106. Чаму камуністы разагналі Першы Усебеларускі кангрэс?



Ва ўмовах Першай сусветнай вайны патрыятычна настроеныя дзеячы склікалі ў снежні 1917 года ў Менску Усебеларускі кангрэс (з'езд) палітычных сіл. У зале Гарадскога тэатра (цяпер тэатр імя Янкі Купалы) сабраліся 1872 дэлегаты ад усіх рэгіёнаў Беларусі, грамадскіх і палітычных арганізацый, у тым ліку пасланцы органаў мясцовага самакіравання, прафесійных саюзаў і кааператыўных таварыстваў. Былі там прадстаўнікі і бежанцаў, і тых, хто служыў у арміі ці на флоце, і хто жыў у Петраградзе або ў Маскве. Яны з энтузіязмам абмяркоўвалі найважнейшыя праблемы жыцця і будучага лёсу Беларусі. На з'ездзе прысутнічалі камуністы, якія, аднак, былі прыхільнікамі захавання жорстка цэнтралізаванай дзяржавы і зусім не збіраліся рабіць саступкі паняволеным народам. Яны ўжо дагэтуль заявілі свае прэтэнзіі на непадзельнае панаванне ў Беларусі. Пераканаўшыся, што перацягнуць дэлегатаў на свой бок не ўдасца, бальшавіцкія кіраўнікі "Западной области" (так яны называлі Беларусь) вырашылі разагнаць кангрэс. Уначы з 30 на 31 снежня начальнік гарнізона М.Крывашэін увёў войскі ў залу пасяджэння. Праца з'езда была гвалтоўна спыненая, прэзідыум і шэраг дэлегатаў арыштаваныя. Але кангрэс паспеў стварыць Выканаўчы камітэт, які ад гэтага часу кіраваў нацыянальна-вызвольным рухам беларускага народа і падрыхтаваў абвяшчэнне ў сакавіку 1918 года незалежнасці беларускай дзяржавы.



*У дзень адкрыцця кангрэса, 7 снежня, адбыўся інцыдэнт. Бальшавіцкі камісар Л.П.Рэзаўскі выйшаў, каб нібыта прывітаць форум, а фактычна, каб унесці раскол у шэрагі ўдзельнікаў. Калі ж убачыў, што "произвести переворот умов" не ўдаецца, у запале назваў наш бел-чырвона-белы сцяг "национальной тряпкой". Гэтая абраза выклікала ў зале буру эмоцый. Як успамінаў К. Езавітаў, да камісара кінулася цэлая грамада вайскоўцаў. І яго забілі б на месцы, каб не генерал Канстанцін Аляксяеўскі, які ўрачыста пацалаваў сцяг і папрасіў дэлегатаў не зневажаць свой першы ўсенародны сход праліццём крыві. Напалоханага камісара раззброілі, далі пару кухталёў і вывелі з залы.*

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

## 107. Ці была БНР марыянеткавай дзяржавай?



*Сябры Народнага Сакратарыяту БНР: (злева направа, сядзяць) Алесь Бурбіс, Іван Серада, Язэп Варонка (старшыня), Васіль Захарка; (стаяць) Аркадзь Смоліч, Пётра Крэчэўскі, Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Лявон Заяц.*

Стварэнне Беларускае Народнае Рэспублікі было заканамерным этапам у развіцці нацыянальна-вызвольнага руху ў Беларусі пачатку XX стагоддзя. Усебеларускі кангрэс, які адбыўся ў снежні 1917 года, выказаўся за аўтаномную рэспубліку Беларусь у складзе федэратыўнай савецкай Расеі. Але нават такая пастанова выклікала абурэнне кіраўнікоў бальшавіцкай партыі, і яны, як вядома, выкарысталі сілу. У 1918 годзе лідэр бальшавікоў "Западной области" В.Кнорын пісаў: "Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты". Рада і Выканаўчы камітэт, абраныя кангрэсам, былі тады адзінымі законнымі прадстаўнікамі інтарэсаў беларускага народа. У лютым — сакавіку 1918 года гэтая Рада была папоўненая прадстаў-нікамі з месцаў і пераўтвораная ў беларускі парламент — Раду Беларускай Народнай Рэспублікі.

Выканаўчы камітэт стаў урадам БНР, які называўся Народным Сакратарыятам. У яго ўвайшлі Я.Варонка (старшыня і адначасова народны сакратар замежных справаў), народныя сакратары: І.Серада (народнай гаспадаркі), Я.Бялевіч (юстыцыі), Г.Белкінд (фінансаў), Т.Грыб (земляробства), К.Езавітаў (вайсковых справаў), І.Макрэеў (нутраных справаў), А.Смоліч (асветы), П.Бадунова (апекі), В.Рэдзька (шляхоў зносін), А.Карач (пошты і тэлеграфа), П.Крэчэўскі (кантролю), П.Злобін (расейскіх справаў), Л.Гутман (габрайскіх справаў). Скарбнікам стаў В.Захарка, кіраўніком канцылярыі — Л.Заяц.

25 сакавіка 1918 года Рада БНР 3-й Устаўной граматай абвясціла Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай. Устанаўліваўся 8-гадзінны працоўны дзень; лясы, азёры і нетры нацыяналізаваліся; зямля без выкупу перадавалася тым, хто на ёй працуе. Абвяшчалася вольнасць слова, друку, сходаў, за-бастовак, веравызнання, хаўрусаў, незачэпнасць асобы і памяшкання. Нацыянальным мяншыням на беларускай зямлі гарантавалася права на нацыянальна-персанальную аўтаномію.

Беларускую Народную Рэспубліку юрыдычна або фактычна прызналі Украіна, Турэччына, Фінляндыя, Аўстрыя, Чэхаславаччына, Летува, Эстонія, Латвія, Польшча, Арменія, Грузія.

Пры канцы лютага ў Менск, дзе знаходзіўся ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, прыйшлі войскі кайзераўскай Нямеччыны. Яны забралі касу Народнага Сакратарыята, сарвалі з яго будынка бел-чырвона-белы сцяг, выгналі службоўцаў. Лідэры БНР былі папярэджаныя, што акупацыйныя ўлады не дапусцяць у Беларусі сур'ёзнай палітычнай дзейнасці. Паводле дамоўленасці з бальшавікамі ў Берасці немцы абавязаліся не прызнаваць новых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі былой Расейскай імперыі.

Урад БНР не трымаўся ў сваёй дзейнасці і польскіх інтарэсаў. Ён катэгарычна адхіляў прэтэнзіі заходняга суседа на нашыя землі.Такім чынам, урад БНР дбаў толькі пра інтарэсы сваіх грамадзян, беларускага народа. Лічыць Беларускую Народную Рэспубліку марыянеткай Нямеччыны, Польшчы ці якой іншай дзяржавы няма ніякіх падставаў.

**Таццяна ПРОЦЬКА.**
**Тэксты да ілюстрацый падрыхтаваў Зьміцер САНЬКО.**

ЗА КУБАЧКАМ КАВЫ З МАРЫНАЙ КОКТЫШ

*Адам ГЛОБУС:*

# «У мяне няма комплексаў...»



*Некаторыя мужчыны, калі жонка раптам застае іх у ложку з палюбоўніцай, адразу пачынаюць апраўдвацца: маўляў, дарагая, гэта зусім не тое, пра што ты падумала. Пісьменнік, мастак і бізнесмен* ***Уладзімір Адамчык*** *(псеўданім* ***Адам Глобус****) да такіх не адносіцца.*

*"Гэта чыста жаночая логіка — ніколі не прызнавацца, — гаворыць Глобус. — Мужчынская логіка іншая: пераканаць, што не магло быць інакш. Закахаўся. Захапіўся. Спакусілі. Напіўся, у рэшце рэшт, не помню, як і што атрымалася..."*

*Адам Глобус шчыра адказваў на ўсе мае пытанні, нават тыя, якія тычыліся асабістага жыцця.*

*"У мяне няма комплексаў", — заўважыў ён.*

## Пра пісьменнікаў, грошы і эротыку

**— Якое імя больш вядомае — Адам Глобус ці Уладзімір Адамчык?**

— Гледзячы каму. У маскоўскім кніжным свеце і сярод беларускіх мастакоў — хутчэй за ўсё Уладзімір Адамчык. У пісьменніцкіх колах — Адам Глобус. Для мяне асабіста больш важна імя, запісанае ў пашпарце.

**— Ваш бацька хацеў, каб Вы былі матэматыкам. Не шкадуеце, што сталі пісьменнікам?**

— Я шмат кім не стаў. Матэматыкам ужо дакладна не стану і не шкадую аб гэтым. Хаця іншы раз думаю: закрэсліць бы ўсё жыццё ды пачаць спачатку! Але я не хацеў бы зноў пражыць тое жыццё, якое пражыў. Мне цікава быць іншым. Напрыклад, жанчынай: мяне цікавіць жаночая псіхалогія. Чалавек заўсёды жадае таго, што не мае. Звычайна гэта адносіцца да грошай: заўжды хочацца мець на дзесяць рублёў ці долараў больш...

**— Багаты пісьменнік — вельмі рэдкая з'ява. Вы ніколі не скардзіцеся на адсутнасць грошай і лічыце, што мастак не павінен быць ідыётам і мусіць знаходзіць нейкія шляхі, каб утрымліваць сям'ю.**

— Не толькі пісьменнік, але і мастак, і журналіст, і спявак не павінны быць ідыётамі. У масавай свядомасці існуе памылковая ідэя, што ідыёт можа стаць знакамітым, багатым чалавекам. Я так не лічу. Калі ты такі разумны, чаго такі бедны?

**— Па-Вашаму, беднасць — гэта загана?**

— Гледзячы што лічыць беднасцю. Напрыклад, у нашай сям'і ніколі не было вялікага дастатку. Я таксама не вельмі багаты чалавек. І перакананы, што на Беларусі наогул не існуе багатых. Багацце — гэта грошы, якія пражылі не адно пакаленне ў сям'і. У нас у гэтым сэнсе ўсё толькі пачынаецца...

**— А Вам цяжка было пачынаць? Саюз пісьменнікаў некаторыя называюць сапраўдным тэрарыумам... Ці Вам як сыну знакамітага пісьменніка не трэба было змагацца за месца пад сонцам?**

— Саюз пісьменнікаў не вельмі адрозніваецца ад Саюза мастакоў ці архітэктараў. Проста пісьменнікі пішуць больш за мастакоў, і таму пішуць менш даносаў. А мастакі, калі нешта пішуць, то часта даносы. Таму ў Саюзе пісьменнікаў адчуваю сябе значна лепш, чым у Саюзе мастакоў. Па адукацыі я мастак, але не ўступаў у мастацкі саюз. Хопіць таго, што я — член Саюза журналістаў. Пра гэты "саюз" я ўвогуле нічога не буду гаварыць. Думаю, зразумела чаму...

**— Лёгка быць сынам вядомага пісьменніка?**

— Я заўсёды ганарыўся, што ў мяне такі бацька. Хаця пэўныя цяжкасці ўсё ж былі. Напрыклад, у пачатковай школе, дзе я вучыўся, быў завадскі кантынгент. І прызнацца, што бацька — пісьменнік, было неяк няёмка. Трэба было, каб бацька быў п'яніцай ці бандытам...

Не магу сказаць, што імя бацькі мне дапамагала: усе ягоныя ворагі механічна станавіліся маімі.

**— Вас называюць бацькам беларускай эратычнай літаратуры...**

— Чвэрць нашай свядомасці скіравана менавіта на эратычныя думкі. Але да нядаўняга часу беларуская літаратура ігнаравала гэта. У нас можна было лёгка напісаць, як і хто каго забіў, а хто каго пакахаў і з кім лёг у ложак — гэта была вельмі табуяваная тэма. Асабіста я падзяляю словы Роберта Бёрнса, які сказаў: лепш зрабіць аднаго, чым знішчыць многіх. Аднак эратычная літаратура — гэта не самае асноўнае, што я зрабіў. Зараз мяне хвалююць рэлігійныя пытанні. Як казаў філосаф Алег Хадыка, свядомасць чалавека ўтвараюць чатыры рэчы: мастацтва, эротыка, рэлігія і навука. Мяне якраз цікавіць мяжа і сувязі эротыкі з рэлігіяй.

**— Раней эратычныя раманы першымі знікалі з паліц кніжных магазінаў. Цікава: ці існуюць на Беларусі камерцыйныя аўтары, тыя, чые мастацкія творы разыходзяцца гэтаксама паспяхова, як эратычныя раманы?**

— Памыляюцца тыя, хто лічыць дэтэктывы і лёгкія жаночыя раманы супербестселерамі. Яны займаюць свой сектар у кніжным свеце, але я магу сказаць, што кніжка, напрыклад, *"Як разводзіць кветкі на балконе"* можа перакрыць усіх дэтэктыўшчыкаў разам узятых. Прынамсі, так было ў Польшчы ў 1999 годзе. І таму бестселер у кніжным свеце — гэта не заўсёды мастацкая літаратура. Што тычыцца беларускай літаратуры і яе камерцыйных поспехаў, то, напрыклад, буквар выдаецца ў нас штогод накладам 25—30 тысяч. І я не ведаю, які дэтэктыў па-беларуску можна выпусціць такой жа колькасцю. Ёсць, канешне, у беларускай літаратуры і бестселеры. Але яны ляжаць не ў мастацкай, а ў адукацыйнай плоскасці. І таму ў нас хутчэй стане бестселерам кніжка Валодзі Арлова па гісторыі, чым супердэтэктыў ці парнаграфічны раман.

## Пра бізнес, ідэалогію і эгаізм

**— Калісьці Вы напісалі восем варыянтаў працягу рамана "Знесеныя ветрам", якія перакладалі літаральна па ўсім свеце. Праўда, што тады нават амерыканскі медыя-магнат Тэд Торнер, які ў свой час выкупіў у Галівудзе правы на "Знесеных ветрам", зняў дакументальны фільм пра Вас?**

— Гэта было адмоўнае кіно. Наколькі я ведаю, у Амерыцы яго пракруцілі па 20 каналах. Я пагадзіўся даць інтэрв'ю для фільма, бо хацеў растлумачыць людзям недасканаласць заканадаўства, якая існуе ў аўтарскіх правах. Не можа быць ніякіх правоў на мастацкі вобраз! Створаны вобраз належыць толькі самому мастаку-стваральніку, а не нейкім сваякам, спадкаемцам, юрыстам. Я ў гэтым перакананы. Пры тым ёсць розніца ў амерыканскім і еўрапейскім заканадаўствах. У Еўропе, калі пасля смерці мастака праходзіць 50 гадоў, ягоная творчасць належыць усім. А ў амерыканцаў тэрміну даўнасці не існуе. Але, на мой погляд, гэта глупства. Каму тады належыць вобраз Ісуса Хрыста ці Будды? Гэта прынцыповыя вобразы, а не нейкая там Скарлет...

**— Вы неўязны ў ЗША?**



— Я не спрабаваў туды паехаць.

**— У свой час у Вас была выдатная з пункту гледжання камерцыі ідэя — *"відэа для тых, у каго няма відэамагнітафона"*. Можа, у Вас ёсць яшчэ адна не менш геніяльная ідэя — як зрабіць наша жыццё лепшым?**

— З пэўнага часу у мяне няма палітычных амбіцый. Яны скончыліся на Дзяды ў 1988 годзе. Калі мы вывелі людзей на дэманстрацыю і не змаглі нічога зрабіць, каб не было бойкі, каб людзей не аблівалі газам і не збівалі дубінкамі. Я зразумеў, што не бачу сябе ў жорсткай, крывавай і баявой палітыцы. Я — мастак. Пісьменнік. Літаратар. Анарха-індывідуаліст і пацыфіст. Я не буду выводзіць людзей на вуліцы, ведаючы, што іх там будуць забіваць. Я не з такіх.

**— Валянцін Акудовіч у сваім эсэ "Без нас" напісаў, што калі б не некалькі палітычных перадач на дзяржаўным радыё і тэлебачанні, сёння ўжо мала хто б ведаў, што на Беларусі, акрамя проста беларусаў, ёсць яшчэ нейкія "сапраўдныя", "шчырыя", "зацятыя", "свядомыя" беларусы. "Краіна жыве без нас", — сцвярджае Акудовіч. І без Вас таксама. Вам утульна адчуваць сябе ў такім становішчы?**

— Канешне, не. Я ўсё жыццё займаўся мастацтвам. Мастак заўсёды знаходзіцца ў апазіцыі да любой дзяржавы, у якой ён жыве, нават самай дэмакратычнай і цывілізаванай. Таму што мастак у пэўных момантах мусіць апярэджваць грамадскую думку. У мастака ёсць сумненні ў правільнасці абранага шляху, а дзяржава не мае права сумнявацца. Але я не перажываю, што нешта зробіцца без мяне. Калі нешта зробіцца — дзякуй Богу.

**— А што Вы тады скажаце пра тых мастакоў, якія цалкам падзяляюць погляды цяперашняй улады?**

— Ім значна лягчэй жывецца. Але не заўсёды гэта і мастакі. Часцей — рамеснікі, якія складаюць добрыя рыфмы. Самае дзіўнае, што многія з тых, хто падзяляе погляды сённяшняй улады, падзялялі погляды і папярэдняй улады, і папярэдне папярэдняй. Яны заўсёды падзяляюць чыесьці погляды, бо сваіх не маюць.

**— Яшчэ адно пытанне пра палітыку. Ваш бізнес завязаны на Расіі, і, наколькі я разумею, увядзенне расійскага рубля на Беларусі значна аблягчае Вам жыццё. Як бізнесмен Вы вітаеце пераход на расійскую валюту?**

— Я працую ў імперыі рускай мовы. А грошы — гэта чыстая матэматыка. І што на іх напісана і намалявана — вельмі неістотна. Як патрыёт, я, канешне, ганаруся, што ў нас ёсць свае грошы. Страта грашовай адзінкі — гэта страта незалежнасці.

**— Зараз ствараецца шмат незалежных, праваабарончых арганізацый, партый. Як Вы да іх ставіцеся?**

— Праваабарончыя арганізацыі занадта розныя, занадта іх шмат і занадта яны дробныя, каб нешта вырашаць. Хаця яны неабходныя. У партыі мне не прапаноўвалі ўступаць, але калі і прапануюць — не ўступлю. Хаця мне вельмі падабаюцца левыя погляды. Больш таго, мне падабаецца анархізм і разумны эгаізм. Было б смешна, калі б разумныя эгаісты стварылі партыю...

**— А чаму не? Вы б яе ўзначалілі...**

— Не, не, не. Разумныя таму і разумныя, што яны не ў партыі. Для нас у бюлетэнях нават радок ёсць: *"супраць усіх"*. Таму на выбары я альбо зусім не хаджу, альбо галасую супраць усіх названых. Гэта пазіцыя мастака. Можна стварыць спіс са 150 партый, але заўсёды застануцца індывідуалы, непаўторныя людзі, для якіх павінна быць вось гэта акенца *"супраць усіх"*.

**— Вы выступаеце супраць многіх, сцвярджаючы, што *"Беларуская нацыя вельмі прыжаночаная. У нас не культывуецца вобраз мужчыны-ваяра"*. Чаму не культывуецца і хто павінен яго культываваць?**

— Зараз шмат гавораць пра стварэнне ідэалогіі. Я таксама лічу сябе стваральнікам ідэалогіі. Мой апошні раман называецца "Дом". Ён пра тое, што трэба любіць маму, сястру, брата, дачку, жонку. Калі мы любім сваіх, калі робім свой уласны дом багацейшым, мы можам палепшыць і жыццё астатніх. Адсюль і разумны эгаізм: я раблю добра сабе, адпаведна, я ведаю, як зрабіць добра хаця б яшчэ аднаму чалавеку. І калі ў мяне застануцца сілы, я зраблю добра свайму суседу. Рабіць абстрактна для ўсіх — гэта амаль што для нікога. Але вобраз чалавека стваральнага, ваяра, будаўніка, наогул чалавека актыўнага, у нас мала культывуецца. У нас нават няма коннай статуі.

**— А чаму яна павінна абавязкова быць?**

— Ёсць вельмі важныя рэчы манументальнай прапаганды. Нездарма ж, напрыклад, рускія на Чырвонай плошчы ставяць помнік Жукаву на кані, свайму герою. Я лічу, што ў нас павінен стаяць Каліноўскі на кані. Гэта больш, чым сімвал. Гэта якраз ёсць праява рэалізацыі ідэалогіі.

**— А ці патрэбна нам наогул *"адзіная дзяржаўная ідэалогія"*?**

— Гэта рытарычнае пытанне. Дзяржава без ідэі — глупства. Дзяржава з маніякальнай ідэяй — трагедыя.

## Пра рэвалюцыю, каханне і секс

**— Вы пісалі: *"Усю маладосць я займаўся жывапісам і маляваннем, прашукаў ідэалаў і не знайшоў. Ці то занадта зялёнымі былі дрэвы, ці вельмі ярка свяціла сонца, ці вада ў возеры недастаткова сіняй здавалася"*. Ці знайшлі Вы свой жаночы ідэал?**

— Больш за ўсіх на свеце я люблю сваю дачку Ядзю. Гэта не жарт і не поза. Я да гэтай формулы ішоў вельмі доўга. Яна зусім не ідэальная. Але Ядзя — самы блізкі і дарагі мне чалавек, за якога я пасля сябе перажываю больш за ўсё на свеце. Бо ў нас з ёй агульная кроў. А з жонкамі і каханкамі кроў чужая. І пераадолець крэўнасць немагчыма.

**— Але ж падчас сустракаеш чалавека, і табе падаецца, што вы з ім адной крыві...**

— Гэта толькі падаецца. Жонку, каханку, сяброў можна змяніць. А змяніць сваіх крэўных немагчыма. І гэта адна з каштоўнасцяў ідэалогіі. Кроў.

**— У Вас ёсць дачка ад першага шлюбу. Вы падтрымліваеце з ёй адносіны?**

— У нас таксама адна кроў, але, мусіць, яна не можа мне даруваць, што мы разышліся з яе мамай.

**— А чаму вы разышліся?**

— Тэмперамент не дазваляў жыць разам. Пазабівалі б адзін аднаго... Мы дазволілі сваёй агрэсіі праявіцца, перайшлі мяжу. Хаця мы сустракаемся, падтрымліваем адносіны. Я ёй нават кватэру купіў.

**— І як адрэагавала на гэта Ваша цяперашняя жонка Алена Адамчык?**

— Думаю, што яе, мякка кажучы, гэта вельмі засмуціла. Але ёсць рашэнні, якія я прымаю сам. Мужчына-ваяр павінен прымаць і адказваць за свае рашэнні. Я лічыў, што гэта трэба было зрабіць, і зрабіў. Але не думайце, што мяне там сумленне заела... Проста я меў такую магчымасць: купіць кватэру для сваёй дачкі. Дарэчы, яна ў мяне матэматык...

**— Ніхто не гаворыць пра фотамастака Алену Адамчык: "Жонка Глобуса". Заўсёды кажуць: "Яе муж Адам Глобус". Вас гэта не крыўдзіць?**

— Раней у яе было іншае прозвішча. Зараз яна носіць маё. І хто помніць, як яе звалі да таго, як яна стала Адамчык?..

**— Адны кажуць, што Вы займаецеся бізнесам і спансіруеце выставы сваёй жонкі. Другія сцвярджаюць, што, наадварот, яна зарабляе грошы і фінансуе выхад Вашых твораў. Як на самай справе?**

— Па-рознаму. Бывалі моманты, калі Алена зарабляла больш за мяне. Але гэта было не доўга. І ў той час я адчуваў сябе нармальна: у мяне няма комплексаў перад грашыма. Я лічу, што чаравікі павінны быць не столькі дарагія, колькі чыстыя.

**— Адамчык і Глобус — дзве яркія адметныя асобы ў адной прасторы. Не складана ўжывацца разам?**

— Я ведаю прыклады, калі мужчыны прыдушваюць жаночы талент, каб быць ярчэй. Я ўсё зрабіў для таго, каб яе талент разгарнуўся, каб яна рэалізавала свае творчыя задумкі, памкненні. Я пазнаёміўся з Ленай Бяляевай, якая займалася праблемамі геранталогіі. Ніякім мастацтвам раней яна не займалася.

**— Некаторыя кажуць, што Алена вельмі раўнівая...**

— Яна мяне любіць.

**— У Інтэрнеце пісалі пра Ваш раман са спявачкай Касяй Камоцкай...**

— Пра мяне ў Інтэрнеце такое пішуць, што лепш пра гэта не гаварыць... Раман з Касяй — гэта хутчэй міфалагема, чым рэальнасць. Яна выконвала песні на мае вершы. Была агульная праца, агульная ідэя, мы шмат разам выступалі. Рамана не было. Хаця мая жонка ўсё ж пабіла Касю... На адным вечары я танцаваў з Касяй, прыйшла жонка, схапіла Касю за валасы і дала па твары. Я пачаў іх расцягваць...

**— І што Вы потым ёй сказалі?**

— А што тут скажаш?..

**— Вы адносіцеся да тых мужчын, якія, калі іх жонка застае ў ложку з палюбоўніцай, кажуць: дарагая, гэта зусім не тое, што ты падумала?**

— Гэта чыста жаночая логіка — ніколі не прызнавацца. Мужчынская логіка іншая: пераканаць, што не магло быць інакш. Закахаўся. Захапіўся. Спакусілі. Напіўся, у рэшце рэшт. Не помню, як і што атрымалася.

**— А калі раптам развод? Лічыцца, што жанчыны балюча перажываюць распад сям'і. А мужчыны?**

— Прырода кожнага страхуе і заўжды прапануе запасныя варыянты. Вакол мяне заўсёды было шмат прыгожых жанчын.

Праўда, мяне вельмі здзіўляе, што ў масавай свядомасці існуе меркаванне, быццам жанчына адорвае мужчыну каханнем. А я лічу наадварот. Мужчыне больш складана падарыць сваё каханне, праявіць сваю эратычнасць, чым жанчыне. Так біялагічна створаны арганізм. Калі мне не падабаецца жанчына, я з ёй не змагу заняцца каханнем. А жанчына, калі ёй мужчына не падабаецца, зможа.

**— Вы плаціце за жанчыну ў рэстаране?**

— Я і за мужчын, бывае, плачу. Напрыклад, два разы плаціў за кватэру паэта Анатоля Сыса: у яго не было грошай.

**— Цытата з аднаго Вашага інтэрв'ю: *"Я занимался и сейчас занимаюсь революцией, но в сексе"*. Гэта як?**

— Я лічу, што ў беларускім грамадстве гэтаму пытанню надаецца недастаткова ўвагі. У нас заканадаўства недасканалае, мала хто адрознівае эротыку ад парнаграфіі, вычварэнствы ад нармальных праяў эратычных гульняў. У нас усё пераблытана. Няма рынка эратычных тавараў, няма сэкс-шопаў, публічных дамоў. Затое каля Вечнага агню на плошчы Перамогі кожны вечар стаяць такія цёці, што я не ведаю, колькі гарэлкі трэба выпіць, каб з імі пайсці!.. Мяне хвалюе рэгламентацыя эратычных паводзін на дзяржаўным узроўні. Тое, што прапісана, на мой погляд, прапісана недасканала і непрафесійна. Трэба вучыцца ў іншых краінаў. Напрыклад, Еўропа і Азія надавалі сексуальным правам і гульням вялікае значэнне, а ў нас гэта лічылася крыміналам, брудам, хваробай.

**— Ведаючы, што Вы любіце фатаграфавацца голым, некаторыя сцвярджаюць: *"У Глобуса комплекс"*. Ці можна з гэтага пунктуі гледжання назваць закамплексаванымі многіх беларускіх артыстаў і спартсменаў, якія актыўна пачалі фатаграфавацца агаленымі?**

— Комплексы не ў тых, хто фатаграфуецца агаленым, а ва ўсіх астатніх. І на нудысцкім пляжы ў мяне комплексаў таксама няма. А вось шмат у каго ёсць...

Калі ў чалавека прыгожае цела, ён можа выкарыстоўваць яго як твор мастацтва. Але большасць чамусьці лічыць, што рэкламавацца можа толькі прыгожы твар...

**— На адной з "Рок-каранацыяў" спявак Піт Паўлаў з'явіўся на сцэне абсалютна голым. Вы здольны на такое?**

— У мяне пакуль не ўзнікала падобнай неабходнасці. Калі б узнікла, я б выйшаў.

**— Шмат хто лічыць, што Ваш інтарэс да сексу і эротыкі хутчэй за ўсё абгрунтаваны асабістымі праблемамі, маўляў, так заўсёды бывае: у каго што баліць...**

— У мяне не баліць. Я заўсёды выкарыстоўваў комплексы нашага грамадства. На мой погляд, гэта тэма запатрабаваная. Больш таго, яна і надалей будзе запатрабавана.

**— А Вы не баіцеся выстаўляць свае пачуцці напаказ? Вам напляваць, што пра Вас гавораць людзі?**

— Не, не напляваць. Проста я лічу, што калі чалавек выстаўляе свае пачуцці ў літаратуры, мастацтве, ён вызваляе месца для новых адчуванняў.

**— У Вас ёсць зборнік *"Толькі не гавары маёй маме"*. Ці ёсць рэчы, пра якія Вы дагэтуль баіцеся расказаць маці?**

— Не тое што баюся... Справа не ў гэтым. У кожнага мастака ёсць таемнае жыццё, таемныя дзённікі...

**— Але ж у гэтыя дзённікі нехта можа залезці і прачытаць тое, што адбываецца з табой, раней, чым трэба...**

— А мастак — гэта праява мужнасці і храбрасці. Наколькі ты можаш сказаць праўду, настолькі ты і мастак...

ТРАГЕДИЯ

## Заблудился, уснул и замерз?

*С трагедии начался этот год в семье председателя Минского межгарнизонного военного суда Александра Конюка.*

3 января его 19-летний сын Владимир ушел из дома и не вернулся. Причиной, по имеющимся сведениям, стал конфликт из-за компьютера, за которым молодой человек проводил слишком много времени. Спустя шесть дней отец обратился в милицию с заявлением. К поискам подключились и сотрудники КГБ. А нашел минчанина, увы, без признаков жизни - сельский участковый в Дзержинском районе. Случилось это 12 января.

По одной из версий, парень поздним вечером куда-то ехал на электричке, пропустил свою остановку, вышел на следующей и возвращался пешком. Очевидно, он заблудился, прислонился к дереву, уснул и замерз...

Окончательные выводы этой трагической истории сделает прокуратура.

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

## У Барысаве асуджаны ваенныя... 72-га АВЦ

*У Барысаўскім міжгарнізонным ваенным судзе вынесены прысуд у дачыненні да групы службовых асоб адной з вайсковых часцей 72-га Аб'яднанага вучэбнага цэнтра (АВЦ) па падрыхтоўцы прапаршчыкаў і малодшых спецыялістаў для Узброеных сіл Беларусі. На лаве падсудных апынуліся восем вайскоўцаў у званнях ад палкоўніка да старшага сяржанта кантрактнай службы.*

Паводле інфармацыі Беларускай ваеннай пракуратуры, суд прызнаў, што ў перыяд з сакавіка 1996-га па кастрычнік 1999 года ўсе гэтыя асобы, займаючы адказныя пасады, праводзілі незаконныя аперацыі з афармленнем фіктыўных нарадаў на рамонт аўтамабільнай тэхнікі часці. Маёмасць (большай часткай аўтамабільныя рухавікі), якую спісвалі на рамонт, выкрадалася.

Барысаўскі міжгарнізонны ваенны суд асудзіў: былога начальніка аўтамабільнай службы вайсковай часці падпалкоўніка Х. да 10 гадоў пазбаўлення волі, былога намесніка камандзіра часці па ўзбраенні маёра К. — да 9,5 года, былога начальніка аўтамабільнай службы падпалкоўніка Г. — да 8 гадоў, былога камандзіра часці палкоўніка М. — да 4 гадоў, былога начальніка другога аддзела бранятанкавай службы Узброеных сіл палкоўніка запаса І. — да 8 гадоў, былога начальніка склада аўтамабільнай маёмасці старшага сяржанта кантрактнай службы О. — да 6 гадоў пазбаўлення волі. Ва ўсіх прысуд з канфіскацыяй маёмасці. Усе яны будуць адбываць пакаранне ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Начальнік склада бягучага забеспячэння прапаршчык Б. асуджаны на два з паловай гады абмежавання волі, намеснік камандзіра часці па ўзбраенні палкоўнік Л. — да 3 гадоў.

Суд пазбавіў афіцэраў вайсковых званняў і задаволіў іск, заяўлены ваенным пракурорам да абвінавачаных, на агульную суму больш за 71,5 млн. рублёў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**20 студзеня**

**АЎТОРАК**
Усх. 8.16 Зах. 16.26
Даўж. дня 8.10
Маладзік 21 студзеня

**90 гадоў** з дня нараджэння В.П. Карповіча (1914–1996), Героя Савецкага Саюза, ураджэнца в. Калодзішчы Мінскага раёна

## Вторник, 20 января

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 08.10** "Доброе утро, Беларусь!".
**08.45, 16.45, 23.20** "Моя страна".
***09.05 до 15.00 Техническая профилактика.***
**15.15** Время спорта.
**15.40** "Маски-шоу".
**16.05** "5х5".
**17.05** Сериал **"Мисс Марпл".**
**18.05 "Самозванцы".** Сериал.
**19.05** Комедия **"Дуэты".** (Канада-США, 2000 г.).
**21.00** Панорама.
**21.50** Триллер **"Долгий уик-энд".** (Канада-США).
**23.35** "Любой каприз".

**ОНТ**

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 22.55** Наши новости.
**08.05** "Доброе утро".
**09.05, 19.10 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**09.50, 21.55** Сериал **"Следующий".**
**10.45** Дисней-клуб.
**15.00** "Город женщин".
**15.45** Сериал **"Берег мечты".**
**16.30** "Угадай мелодию".
**16.55** "Большая стирка".
**18.10** "Кумиры".
**18.40** "Шутка за шуткой".
**20.00** Время.
**21.00** "Кто хочет стать миллионером?".
**23.05** "Не только о футболе".
**23.25** Тайны века.
**00.05** "На футболе".



**РОССИЯ**

**07.45, 19.55** Сериал **"Русские амазонки-2".**
**08.50** "Короткое замыкание".
**09.45, 23.15** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.30, 19.30** Местное время. Вести-Москва.
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50, 21.00** Сериал **"Неотложка".**
**16.10** Сериал **"Маросейка, 12".**
**17.00** Сериал **"Навеки Джулия".**
**17.55** Сериал **"Тайны следствия".**
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**22.00** Вести+.
**22.20** "Юрий Григорович. После "Большого".
**23.30** Детектив **"Тот, которого заказали".** (США, 2001 г.).

**ЛАД**

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Есть только миг...".
**08.35** Футбол. Чемпионат Италии.
**09.40** "Пой, душа!".
**10.10** "Между нами, женщинами".
**10.30** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**11.15** Обычный необычный день.
**11.50** Сериал **"Друзей не выбирают".**
**12.55** Обычный необычный день.
**13.20** Мультфильмы.
**14.10** "Не зевай!".
**14.50** "Синеглазка". Мультфильм.
**15.05** Сериал **"Наши самые прекрасные каникулы".**
**15.30** "Не зевай!".
**15.40** Тележурнал "Бум".
**16.05** Опера "Красная Шапочка".
**17.00** "Ностальжи".
**17.30** Сериал **"Возвращение Шерлока Холмса".**
**18.30** "Между нами, женщинами".
**18.50** Сериал **"Друзей не выбирают".**
**20.15** Колыбельная.
**20.30** "Дела семейные".
**21.15** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**22.05** Сериал **"Развязка петербургских тайн".**

**НТВ**

**09.00, 11.00, 18.00** Сегодня.
**09.25** "Дикий мир".
**10.15** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.00** Сегодня.
**16.30** Сериал **"Она написала убийство".**
**17.30** Протокол.
**18.35, 22.35** Сериал **"Мангуст".**
**19.50** Сериал **"Таксистка".**
**21.00** Страна и мир.
**21.35** Красная стрела.
**21.45** "Блокада Ленинграда".

**СТВ+RenTV**

**06.25, 15.40** "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры в космосе". **Сериал.**
**06.50** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт".
**08.15** "Минщина. Люди, события, факты".
**08.30** "Технология".
**08.40** Комедия **"Воспитание Аризоны".** (США, 1987 г.).
**10.20** Столичный футбол.
**10.45** "Добро пожаловаться...".
**11.00** "Дикая планета".
**11.30** "Пока горит свеча".
**12.00** "Час суда".
**13.00 "Запретное королевство".** 1-я серия.
**13.50, 18.30 "Желанная".** Сериал.
**14.50** "Шайбу, шайбу!". Мультфильм.
**15.15** "Маска". Мультсериал.
**16.00** Мультфильмы.
**16.15** "Кадровый вопрос".
**16.50** "Путь к здоровью". Док.фильм.
**17.00 "Агентство".** Сериал.
**17.30 "Вовочка".** Сериал.
**18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.15** "Здравствуйте, доктор!".
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.15** "Тема дня".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Закон и криминал".
**20.55** Боевик **"Дерево "Джошуа".** (США, 1993 г.).
**23.05** "Горячий лед".
**23.35** "Технология".
**23.45** "Новости СНГ".
**00.00** Мелодрама **"Грех. История страсти".** (Россия, 1993 г.).

**ТВ ЦЕНТР**

**05.00, 06.30** Информационно-развлекательный канал "Настроение".
**07.45** Газетный дождь.
**07.55 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**08.40, 20.00 "Провинциалы".** Сериал.
**09.35** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.05** "Момент истины".
**12.05** Доходное место.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кестер".** Сериал.
**14.20** Как добиться успеха.
**15.30** Идущие вперед.
**16.00 "Комиссар Мулен".** Сериал.
**17.15** Очевидное — невероятное.
**18.00 "Разлученные".** Сериал.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Лицом к городу.
**21.40** Отдел "Х".
**22.25** Времечко.
**22.55** Петровка, 38.
**23.15** 25-й час. События. Время московское.
**23.35** Серебряный диск.
**23.55 "Улицы Ларедо".** Сериал. (США, 1995 г.).
**00.40** "Синий троллейбус".

**8-Й КАНАЛ**

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45** Комедия **"Неисправимый".**
**19.15** Док.сериал "Причуды природы".
**19.25** "Атомик Филмз" и К-видео" представляют...
**19.30** Сериал **"Адъютант его превосходительства".**
**20.40** Телемагазин.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "ЦАУК" приглашает...
**21.10** Худ.фильм **"Рыцарь Камелота".**

**EUROSPORT**

**04.00** Теннис.
**20.00** Прыжки на лыжах с трамплина.
**21.00** Бокс.
**00.00** Журнал.
**00.45** Теннис.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

**Рэдактар нумара Алесь ДРАБЧУК**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны ААТ «Красная звезда» з дыяпазітываў заказчыка , 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 250 экз. Заказ № 569.